

# КРАЯЗНАЎЦА

№ 1
2000 г.

Інфармацыйны бюлетэнь Ваўкавыскага рэгіянальнага краязнаўчага таварыства

*На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна*

## КРАЯЗНАЎСТВА - КРЫНІЦА САМАСВЯДОМАСЦІ

# Каб не раслі патомкі без роду і племені

Цікавы семінар па тэме "Краязнаўства — крыніца самасвядомасці" адбыўся ў горадзе Ваўкавыску 20 лютага. Удзел у ім прынялі настаўнікі і вучні мясцовых школ, выкладчыкі і студэнты педвучылішча, а таксама іншыя аматары краязнаўства, якія цікавяцца гісторыяй родных мясцін, збіраюць каштоўныя звесткі аб падзеях і людзях з мэтай захавання нашай нацыянальнай, гістарычнай і культурнай спадчыны. Аб'яднаць іх намаганні, надаць гэтай працы усвядомленасць і грамадскую значнасць дапамагло б стварэнне краязнаўчага таварыства, што і стала, дарэчы, галоўным вынікам гэтай імпрэзы.

Падзяліцца вопытам даследча-краязнаўчай працы, сваімі поглядамі на закранутыя пытанні былі запрошаны з Гродна выкладчыкі Г. Семянчук, дацэнт кафедры беларускай культуры з універсітэта, А. Чарнякевіч з медінстытута, А. Госцеў з ліцэя, гісторык У. Хільмановіч, а таксама добра вядомы не толькі землякам дырэктар Гудзевіцкага краязнаўчага музея А. Белакоз.

Генадзь Семянчук у сваім выступленні спыніўся на праблемах, з якімі сустракаюцца тыя, хто вывучае гісторыю, акрэсліў першачарговыя задачы для пачынаючых краязнаўцаў: напрыклад, стварэнне сучаснай бібліяграфіі рэгіёна і каталога крыніцаў гістарычных звестак аб Ваўкавышчыне. Андрэй Чарнякевіч зрабіў даклад на тэму "Адукацыйная палітыка польскіх улад у Ваўкавыску 1919—1920 гг.".Сваім багатым досведам краязнаўца падзяліўся Алесь Белакоз. Будучыя педагогі задалі яму шмат пытанняў аб методыцы выкладання, ролі настаўніка ў сучаснай школе, паслядоўніках ідэі нацыянальнай самасвядомасці, выхаванню якой у вучнях ён прысвяціў сваё жыццё. Зараз толькі на вас надзея, адказаў Алесь Мікалаевіч, памятайце, што шчасце не ў грошах, а калі вам удаецца што-небудзь зрабіць для для свайго народа. Не трэба чакаць, што вас будуць на руках насіць — чым больш працуеш, тым цяжэй. Але вы павінны рабіць сваю справу. тым болей, што сёння яшчэ ёсць магчымасць выказаць сваю думку ўголас, і павінны служыць толькі дабру.

Выказалі свае меркаванні на гэтую тэму таксама яго даўнія сябры і калегі Валянцін Хмара з Ваўкавыска і Алесь Ляскоўскі з вёскі Сугакі. Выкладчык Гродзенскага ліцэя Алесь Госцеў расказаў пра свой вопыт вядзення краязнаўчай работы ў школе, з вучнямі 8—11 класаў, якія архівы можна звяртацца па патрэбныя даведкі. Уладзімір Хільмановіч пазнаёміў з прынцыпамі і методыкай складання рэгіянальнага краязнаўчага календара.

Удзельнікі семінара вырашылі стварыць краязнаўчае таварыства. Старшынёй яго прапанавалі стаць Генадзю Семянчуку, які абяцаў усю магчымую дапамогу, намеснікам старшыні — выкладчыку педвучылішча Уладзіміру Кананавічу.

Нельга стаць патрыётам сваёй радзімы, не ведаючы яе гісторыі — з гэтым сцверджаннем наўрад ці хто будзе спрачацца. Але цешыць яшчэ і тое, што гэта ўсведамляе наша сённяшняя моладзь — тыя, хто праз год ці два прыйдзе ў школьныя класы і навучыць дзяцей любіць сваю краіну, сваю мову, свой народ.

**Тамара ГУРЫНА.**







# АКТУАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ВЫВУЧЭННЯ ГІСТОРЫІ ВАЎКАВЫШЧЫНЫ

ПРАБЛЕМА ДЭІДЭАЛАГІЗАЦЫІ. Гэта праблема ачышчэння беларускай гісторыі і культуры ад ідэалагічных догмаў і стэрэатыпаў. У выніку паланізацыі, русіфікацыі і бальшэвізацыі склалася некалькі канцэптуальных поглядаў на беларускі народ, яго гісторыю і культуру. Сярод іх вылучаюцца тры: 1) вялікарускі (заснаваны на ўяўленнях, што беларусы частка вялікарускага этнасу, а Беларусь, адпаведна, частка вялікарускай этнічнай тэрыторыі, а беларуская мова не самастойная славянская, а з'яўляецца дыялектам расейскай - А.Сабалеўскі, І.Срэзнеўскі, М.Каяловіч і іншыя «западнарусы» ў XIX ст, сёняшнія расейскія імперыялісты і мясцовыя інтэгратары і панславісты); 2) польскі (аналагічна метадалагічна, толькі з акцэнтам на польскі бок - А Рыпіньскі, Лінде у XIX ст., «нарадоўцы» ў 20-30-е гг. бягучага стагоддзя і сёняшнія польскія шавіністы); 3) савецкі (беларусы як частка савецкага народу, які пад «мудрым» кіраўніцтвам усенароднаабранай камуністычнай партыі рухаецца да свайго шчаслівага будучага, у якім не будзе багатых і эксплуататараў). У духоўным жыцці народаў былога СССР трэцяя пазіцыя адлюстравалася ў практычнай рэалізацыі вядомай ленінскай тэзы аб дзвух культурах - буржуазнай, эксплуататарскіх класаў, і пралетарскай, эксплуатуемых масаў, якія, часцей за ўсё, розныя і несумяшчальныя; а таксама сталінскага дагмата аб нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу культуры, калі ўрэшце ўсе нацыянальныя культуры «сальюцся» у адну агульную культуру з адной агульнай мовай у перыяд перамогі сацыялізму ва ўсім свеце. Вядомы беларускі філосаф і культуролаг Уладзімір Конан на гэты конт заўважыў: «Ідэалогія пралетарскага інтэрнацыяналізму, пасля падаўлення нацыянальна-тэрытарыяльнай аутаноміі былых нярускіх рэспублік Савецкага Саюза, ў 30-я гады вырадзілася ў банальную русіфікацыю, разбурэнне самабытных рэгіянальных культураў і нацыянальных ментальнасцяў. Пры гэтым у шматнацыянальных рэгіёнах поруч з прапагандай тэндэнцыйна выбраных элементаў класічнай рускай культуры на масавым узроўні навязваўся атэістычны, пазбаўлены духоўнага зместу русіфікаваны люмпенпралетарскі менталітэт»[1].

Дарэчы, такія падыходы негатыўна адбіліся на характарыстыцы ролі і месца ўплываў іншых народаў і культураў на беларускую, і наадварот. Савецкая гістарычная і культуралагічная навукі, прадаўжаючы традыцыі велікарускага шавінізму, даволі часта перабольшвалі Маскоўска-Расейскія ўплывы на нас, пры гэтым змяншаючы (альбо адмаўляючы) заходнееўрапейскія кантакты беларускага народу. Апошнім часам у беларускім палітычным і культурным жыцці першая («вялікаруская») і трэцяя («савецкая») канцэпцыі актыўна дапаўняюць адна адну. Падобная сітуацыя нясе вялікую небяспеку для грамадства. Па-першае, ідэалагічны прэсінг з'яўляецца адным з галоўных чыннікаў уплыву на свядомасць людзей. Па-другое, пагражае мадэрнізацыяй, фальсіфікацыяй, тэндэнцыйнасцю, нават, відавочнай ілжывасцю ў адносінах да гісторыка-культурнай мінуўшчыны нашага народа. Даходзіць да адмаўлення самастойнасці беларускага народу, яго гісторыі і культуры. Асабліва актыўна другаснасць беларускага перад расейскім прапагандуе апошнія гады ў сваіх працах выкладчык Гродзенскага ўніверсітэту Валеры Чарапіца[2].

«Да сёняшняга дня працягвае дзейнічаць інерцыя мыслення шавіністычных рускіх і польскіх вучоных, якія шматлікія духоўныя здабыткі беларусаў (асабліва найбольш развітыя, прафесійна-мастацкія формы духоўнай дзейнасці) катэгарычна далучалі да сваіх. Беларускай жа культуры пакідалася пераважна «побытавая» роля. Маўляў, яна, гэтая культура, не ўзвышалася над фальклорам, зберагаючы такім чынам свае традыцыйныя, прыгожыя, але мала развітыя каштоўнасці.... Такім чынам даказваецца нацыянальнае паходжанне народнага мастацтва і замежнае - прафесійнага.» - піша прафесар Аляксей Пяткевіч.[3] Таму і сёння надзённа гучаць словы Ул.Пічэты, сказаныя яшчэ ў 1922 годзе, аб неабходнасці «правесці грандыёзную рэвізію ўсіх вынікаў папярэдняй даследчыцкай працы. Такая пераацэнка ўсіх гістарычных каштоўнасцей патрабуе пэўнай мужнасці, бо занадта мы прывыклі падпарадкоўвацца меркаванням аўтарытэтных гісторыкаў і юрыстаў»[4]. Але ў нашым грамадстве настолькі моцна пануюць састарэлыя стэрэатыпы, што калі новая думка абвяргае раней прынятае звыклае ўяўленне, яна не ўспрымаецца. Разам з гэтым актуальнай робіцца праблема адлюстравання беларускай нацыянальнай ідэі ў культуры і гісторыі. Чужыя беларускаму народу ідэалагемы павінны быць заменены нацыянальнымі. З гэтага пункту гледжання павінны разглядацца ўсе з'явы ў духоўным і матэрыяльным жыцці беларусаў у мінулым, сучаснасці і будучыні. Падобная сітуацыя характэрна не толькі для гісторыі Беларусі і беларускага народа ў палітычных альбо этнаграфічных межах, а таксама і для кожнага канкрэтнага рэгіёну. У тым ліку і Ваўкавышчыны.

ПРАБЛЕМА ГІСТАРЫЯГРАФІІ. Гэтая праблема шчыльна звязана с тымі ідэалагічнымі і палітычнымі арыенцірамі, якімі кіруецца даследчык. Яна моцна залежыць ад нацыяльнальнай свядомасці, веравызнанання і партыйнай прыналежнасці гісторыка. І трэба прызнаць, на гэты конт Ваўкавыскаму рэгіёну не пашанцавала як колькасна, так і якасна. На сёняшні дзень навуковых, навукова-папулярных, краязнаўчых і энцыклапедычных прац прысвечаных нашай малой Радзіме, знойдзецца няшмат: некалькі манаграфічных навукова-папулярных выданняў і дзясяткі артыкулаў, якія раскіданы па спецыялізаваных энцыклапедыях, часопісах і зборніках. *Адна з першасных задач, якая мусіць быць пастаўлена перад будучым Ваўкавыскім краязнаўчым таварыствам, гэта стварэнне сучаснай* БІБЛІЯГРАФІІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ ВАУКАВЫСКАГА РЭГІЁНУ.

А пакуль звернем увагу на некаторыя з даследаванняў. Булгаковский Д. Исторический очерк Волковыска, уездного города Гродненской губернии. - Вильно, 1882. Гэта тыповая кніга прарасейскай накіраванасці. У якой аўтар спрабуе даказаць «исскони русский характар» горада Ваўкавыска, выдзяляючы яго значэнне як цэнтра праваслаўя ў рэгіёне. Праўда, кніга можа быць цікавай сучасным даследчыкам Ваўкавышчыны з фактaлагічнага боку.

Сярод польскіх даследчыкаў мінулага Ваўкавышчыны можна назваць працу нейкага Валыняка. Апошні ў 1905 г. у Кракаве выдаў навукова-папулярную кнігу **«Z przeszlosci powiatu Wolkowyskiego»**. У ёй Ваўкавыск пададзены ўжо як цэнтр каталіцызму і важны горад у гісторыі Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

**Гашимов М.М., Гриченок Т.А., Флякс Я.В. Волковыск: Историко-экономический очерк. - Мн., 1978.** Гэта тыповая кніга савецкай гістарыяграфіі. У ёй класавы падыход спалучаецца з прарасейскай накіраванасцю. Увага аўтараў пераважна скіравана на барацьбу працоўных супраць эксплуататараў і іншаземных захопнікаў, рэвалюцыйную дзейнасць жыхароў горада і на дасягненні Ваўкавыска за гады сацыялізма.

**Ваўкавыскі раён // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мн., 1986. С.120-137**. Гэта тыповае савецкае выданне энцыклапедычнага характару, у якім справядліва пералічаны помнікі ахвярам другой сусветнай вайны, вядомыя археалагічныя помнікі, узгаданы адзінкавыя культавыя будынкі і палацава-паркавыя комплексы, а самае галоўнае пералічаны ўсе помнікі Леніну і яго хаўруснікам на тэрыторыі раёна.

**«Ваўкавышчына: З гісторыі краю і лёсу людзей» (Матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі 22 снежня 1995 года). Ваўкавыск, 1997**. Гэта тыповая постсавецкае выданне, дзе разам з грунтоўнымі і цікавымі артыкуламі змешчаны матэрыялы прапагандыскага характару, якія з пазіцый камуністычнай ідэалогіі (а для гісторыі гэта «западнарускі» падыход) падаюць нам некаторыя факты

мінуўшчыны. Пакінем на сумленні аўтараў і рэдактарскага калектыву, пад кіраўніцтвам праф. Івана Крэня, тыя шматлікія памылкі арфаграфічнага і друкарскага характару, якія страшэнна паўплывалі на змест большасці артыкулаў. Па вялікаму рахунку, падобную неахайнасць можна трактаваць толькі як непавагу да нас ВАЎКАВЫЧАНАЎ. Але яшчэ большую небяспеку нясе тэматыка, змест і высновы значнай часткі надрукаваных матэрыялаў. Горад Ваўкавыск і рэгіён прызнаёцца як беларускія, але ўвесь час падкрэсліваецца іх непарыўная сувязь з Расеяй і расейскім народам. Таму і гісторыя Ваўкавышчыны падаецца ў адпаведеным русле. Напрыклад:

1) У сярэдзіне XIII ст. рэгіён папаў пад уладу мацнеючага Літоўскага княства (Іван Крэнь. С.8. Праўда аўтар напісаў, што гэта адбылося ў канцы XIII ст.), карацей кажучы быў захоплены літоўскімі князямі. А з гэтага пастулата пазней выводзіліся меркаванні аб антыбеларускім, антынародным характары ВКЛ, дзе літоўскія феадалы эксплуатавалі беларускіх сялянаў і мяшчанаў.

2) Пад час войнаў Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай у XVII-XVIII стст. горад разбураўся толькі шведамі, пры чым двойчы ў 1656-1658 гг. і 1700-1721 гг. Аднак даследаванні беларускіх і польскіх гісторыкаў падаюць нам іншыя факты [5]. У Ваўкавыскім павеце за перыяд з 1648 па 1667 гады насельніцтва скарацілася з 70 826 асобаў да 49 913 альбо на 20 913 асобаў (29,5 %), з 1656 па 1660 гады наш рэгіён быў пад акупацыяй маскоўскага войска, якое паводзіла сябе зразумела не «па-сяброўску».

3) Беспадстаўнае ўсхваленне аднаго з расейскіх герояў вайны 1812 г. генерала ад інфатэрыі Пятра Баграціёна, які толькі тыдзень знаходзіўся ў Ваўкавыску з 22 па 29 чэрвеня 1812 г. і адступіў пад напорам войска Напалеона. Зноў мы сутыкаемся з інтэрпрытацыяй гісторыі характэрнай для «велікарускага» і «савецкага» падыходаў. Маўляў, Напалеон з французскім войскам захопнік (што адпавядае рэчаіснасці), а расейскія войскі вызваліцелі сваёй Айчыны, у тым ліку Ваўкавышчыны. Пры гэтым забываецца, што значна раней, у 1795 годзе наш край быў захоплены і акупаваны Расеяй. Таму ўвесь час мы чытаем, толькі пра разбурэнні Ваўкавыска і рэгіёну жорсткімі і сквапнымі французамі, не знаходзячы фактаў пра падобнае з другога, расейскага, боку (а яны ёсць)[6].

4) І зусім тэндэнцыёзнай па зместу, і месцамі фантастычнай, выглядае дадатак да Хронікі Ваўкавыска, складзены А.П.Чарнышом. Па-першае, ў ёй адлюстраваны пераважна ваенныя падзеі: захопы, вызваленні, зноў захопы і зноў вызваленні. Па-другое, пададзены факты дзяржаўнай прыналежнасці і адміністрацыйнага статуса г. Ваўкавыска. А дзе, папытаемся, падзеі з духоўнага жыцця горада: пабудова і дзейнасць першых цэркваў і касцёлаў, школ і бальніцаў, падзеі культурнага характару і інш., што дазваляла бы ахарактарызаваць штодзённае жыццё жыхароў Ваўкавыска. А як зразумець даты 1224 г. і 1241 г. - разбурэнні Ваўкавыска і Ваўкавыскага замку мангола-татрамі ? Вядома, што ў 1223 г. адбылася бітва на Калцы, дзе войскі Чынгіз-хана перамаглі палавецкія і рускія войскі, але Калка за тысячы км ад Ваўкавыска. У той час нават бліжэйшыя гарады Кіеўскай Русі не былі захоплены мангола-татарамі. А другая дата - гэта ўвогуле разбурэнне Батыям Кіева, а прычым тут Ваўкавыск? Якое дачыненне да гісторыі Ваўкавыска мае дата 1596 г. - прыняцце Брэсцкай вуніі, і як вынік стварэнне ўніяцкіх цэркваў? З кантэксту вынікае, што гэта была дрэнная падзея, «для исконно русских и православных земель». Няўжо забарона ў 1696 г. выкарыстоўвання ў ВКЛ беларускай мовы ў афіцыйным ужытку вельмі моцна адбілася на жыцці г. Ваўкавыска, што яна падаецца як абавязковая ў дадзеным Дадатку? І такіх прыкладаў інтэрпрэтацыі мінулага Ваўкавыскага рэгіёну ў дадзеным зборніку можна пералічыць значна больш.

Праўда не ўсё так трагічна ў пытаннях асвятлення мінуўшчыны нашай малой Радзімы. Побач з вышэйназванымі кнігамі, якія выконвалі функцыі ідэялагічных заказаў, заўсёды з'яўляліся грунтоўныя даследаванні. Шайбольшы ўклад ў вывучэнне старажытнасцяў Ваўкавыскага рэгіёну ўнеслі археолагі - Юзаф Ядкоўскі, Георгі Пех, Васіль Тарасенка, Павел Рапапорт, Міхась Чарняўскі, Яраслаў Звяруга, Валеры Шаблюк, Вольга Ліпніцкая. Віктар Кудрашоў, Сяржук Піваварчык і этнаграфы - Міхал Федароўскі, Ян Карповіч. Сярод гісторыкаў неабходна назваць працы Стэфана Кракоўскага, Мацвея Любаўскага, Міхаіла Спірыдонава, Анатоля Цітова; сярод гісторыкаў культуры - Анатоля Федарука і Анатоля Кулагіна, Аляксея Пяткевіча і Міколы Нікалаева.

Такім чынам, маючы ўяўленні аб гісторыі нашага Ваўкавыскага рэгіёну напісанай з пазіцый вялікарускай, польскай і савецкай, мы прыходзім да дзіўнай высновы **- а гісторыі ж няма!?** Ёсць даволі значная база канкрэтных факталагічных дадзеных ад старажытнасці да сёняшніх дзён, ёсць вельмі грунтоўныя напрацоўкі ў вывучэнні жыцця і дзейнасці канкрэтных асобаў звязаных з рэгіёнам у розныя гістарычныя эпохі, ёсць нават панарамныя карціны некаторых лёсавызначальных для Ваўкавышчышы падзеяў. Але ўсё гэта працавала і працуе на падмацаванне чужой палітыкі і ўлады, выкарыстоўваецца ў яе ідэалагічным афармленні. Таму можам канстатаваць, што гісторыя Ваўкавыскага рэгіёну своеасаблівая **tabula rasa**, чыстая старонка, якую мы мусім з вамі запісаць.

Скончваючы свой напоўны гістарыяграфічны аналіз мінулага Ваўкавыскага рэгіёну, хочацца распавясці яшчэ пра адну асобу, якая непасрэдна звязана з Ваўкавышчынай і прысвяціла сваё жыццё вывучэнню яе гісторыі. **Гэта Вітальд Карпыза.** Нарадзіўся ён ў 28.09.1913 г. у невялічкай вёсцы Зеноўцы, паміж Дыхнавічамі, Шніпава і Азеранкамі. Яшчэ перад другой сусветнай вайной скончыў настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы. І на ўсё жыццё застаўся настаўнікам. Пазней, ужа пасля вайны, скончыў Высшэйшую педагагічную школу ў Гданьску па спецыяльнасці «матэматыка». З 1945 г., калі з групай польскіх рэпатрыянтаў мусіў выехаць з Радзімы і да сёняшняга дня жыве на заходняй мяжы Польшчы, ў горадзе Гожуў Велькапольскі. Вітальд Карпыза ў цяжкія ваенныя гады выпадкова на сметніку ў Росі знайшоў кнігу без вокладкі, у якой апавядалася аб мінулым бліжэйшых ваколіц. Гэтая знаходка пацягнула яго з сабою да вывучэння гісторыі Ваўкавышчыны. І вось, ужо на працягу амаль 60 год, Вітальд Карпыза піша свой летапіс сваёй і нашай Радзімы. Матэрыялы ён збіраў па бібліятэках і архівах Варшавы, Кракава, Познані, Вроцлава, Гродна; з багатай перапіскі з Ваўкавычанамі, якіх лёс параскідаў па ўсяму свету, і з уласных успамінаў. Шматлікія навуковы і навукова-папулярныя артыкулы друкаваліся ў часопісах „Bialostoczczyzna", „Magazin Polski"; газэтах „Glos z-nad Niemna", „Goniec Kresowy" і інш. А яшчэ Віталь Карпыза прафесійна малюе і фатаграфуе. Ён стварыў цыкл з больш за 100 графічных малюнкаў архітэктурных помнікаў Ваўкавыскага павету. Унікальнасць гэтага цыклу ў тым, што яны з'яўляюцца важнай першакрыніцай, бо значная колькасць зафіксаваных будынкаў альбо знішчаны за гады савецкай улады, альбо зменены перабудовамі да непазнавальнасці. Малюнкі Вітальда Карпызы друкаваліся ў двух альбомах і як ілюстрацыі да шматлікіх яго артыкулаў. Аднак сапраўдныя багацці знаходзяцца ў асабістым архіве гэтай не звыклай асобы, у выглядзе машынапісных навуковых апрацаванняў па гісторыі Ваўкавыскага павету. І яны па сёняшні дзень чакаюць свайго выдаўца. Гэта:

1. Гісторыя мястэчка Рось - 188 стр.;
2. Гісторыя суседніх з Росьсю 16 мястэчак і гандлёвых пунктаў - 205 стр.;
3. Гісторыя іншых 23 гадлёвых пунктаў і мястэчак з павету Ваўкавыскага - 226 стр.;
4. Гісторыя мястэчка Свіслач - 201 стр.;
5. Гісторыя Ваўкавыска і павету да 1939 г. - 300 стр.;
6. Гісторыя Ваўкавыска і павету ў годы ІІ сусветнай вайны - 187 стр.;
7. Гісторыя Ваўкавыска і павету - маёнткі - 230 стр. (датычыцца 83 маёнткі);
8. Гісторыя Ваўкавыска і павету - касцёлы і царквы - 230 стр. (датычыцца 26 помнікаў);
9. Гісторыя Ваўкавыска і павету - могілкі, духоўная і матэрыяльная культура, казкі і паданні, анекдоты насельніцтва Ваўкавышчышны - 200 стр.
10. Матэрыялы да гісторыка-геаграфічнага слоўніка мясцовасцей Ваўкавыскага павету - больш за 1200 стр.;
11. Успаміны з уласнага жыцця і жыцця сваёй сям'і - каля 800 стр.

ПРАБЛЕМА КРЫНІЦАЗНАЎЧАЯ. Гэтая праблема вельмі шчыльна звязана таксама з дзвума папярэднімі: ідэалагічнымі падмуркамі і гістарыяграфічнымі набыткамі. Вядома, што для

больш-менш грунтоўнага канструявання мінуўшчыны неабходна максімальнае выкарыстоўванне і сучасныя метады аналізу наяўных крыніцаў: гістарычных ( як друкаваных, гэтак і архіўных), археалагічных, этнаграфічных, лінгвістычных, фальклёрных, мастацкіх і іншых). Менавіта, крытэрыі адбору крыніц заўсёды ўплывалі і ўплываюць на канчатковыя высновы даследчыкаў. «Заходнерусам» і іхнім нашчадкам, сучасным «панславістам» («інтегратарам»), неабходна даказваць «исконно русский характер» беларускага народу і беларускіх земляў, таму выкарыстоўваліся крыніцы, якія паказвалі захопніцкі характар Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, антынародная дзейнасць каталіцкай і уніяцкай рэлігій, пастаянны клопат аб няшчасных беларасах з боку Маскоўскага княства і Расейская імперыі разам з праваслаўнай царквой. Камуністычныя гісторыкі дадалі да гэтага яшчэ класавую праблему: эксплуататары - гэта літоўцы, палякі і расейцы (апошнія толькі памешчыкі і чыноўнікі), а эксплутуемыя - беларускі народ. Дзяржава беларускага народу паўстала толькі пасля перамогі кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 году, бо ранейшыя дзяржавы на нашых земля былі дзяржавамі эксплуататараў, якія ў сваю чаргу не былі беларусамі. Адсюль высновa: беларускі народ мусіць да канца сваіх дзён быць удзячны «камуністычнай партыі» з яе лідарамі Леніным, Дзяржынскім, Сталіным, Берыяй, Хрушчовым, Брэжневым, Чарненкам, сучаснымі беларускімі сталічнымі і мясцовымі кіраўнікамі, якія з'яўляюцца прадаўжальнікамі святой справы змагання за шчасліву́ю будучыню нашага народу. **Чарговая важная задача для дзейнасці нашага Ваўкавыскага краязнаўчага таварыства - гэта стварэнне КАТАЛАГУ КРЫНІЦАЎ ПА ГІСТОРЫІ ВАЎКАВЫСКАГА РЭГІЁНУ.**

Толькі ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску знаходзяцца дзесяткі Ваўкавыскіх земскіх і гродскіх актавых кніг XVI-XVIII стст., інвентароў населеных пунктаў, культавых будынкаў і маёнткаў XVII-XVIII стст. Я ўжо не кажу пра неасэнсаваныя (таму невыкарыстаныя) даследчыкамі Ваўкавышчыны багацці, якія захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродна. А дакументы і матэрыялы па гісторыі нашага рэгіёну ў архівах і бібліятэках Варшавы, Кракава, Вроцлава, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Стакгольма і інш. гарадоў.

Для больш грунтоўнага вывучэння мінулага Ваўкавыскага рэгіёну і паспяховага функцыянавання таварыства, для значнай дапамогі яе сябрам ў перспектыве неабходна стварыць адпаведныя банкі дадзеных па наступных тэмах: **«Археалагічныя помнікі Ваўкавышчыны»; «Гісторыка-геаграфічны слоўнік населеных пунктаў Ваўкавыскага рэгіёну»; «Людзі культуры; людзі палітыкі; ахвяры войнаў і палітычных рэпрэсіяў народжанныя на Ваўкавышчыне»; «Выбітныя асобы, звязаныя з гісторыя і культурай Ваўкавыскага рэгіёну»; «Культавыя будынкі Ваўкавышчыны»; «Свецкая (палацава-паркавыя комплексы, гарадская і мястэчковая забудова) архітэктура Ваўкавыскага рэгіёну»; «Тапаніміка, гідранімікі, айканімія Ваўкавышчыны»; «Фальклёр Ваўкавышчыны».**

ПРАБЛЕМА НАРАЦЫІ. Самая галоўная праблема: а якія тэксты (праблемы, падзеі, факты, асобы) па гісторыі і культуры Ваўкавскага рэгіёну павінны быць даследаваны і напісаны ? **Гэта ёсць трэцяя і галоўная задача будучага Ваўкавыскага краязнаўчага таварыства**. Вызначым некалькі галоўных накірункаў і тэм, якія аб'ядноюць прафесійнага гісторыка і прафесійнага краязнаўцу.

**I. Праблемы першабытнай і раннесярэднявечнай гісторыі рэгіёну (да канца XIII ст.)** Вельмі цікавым тут бачыцца збор і аналіз інфармацыі па пытаннях засялення той альбо іншай тэрыторыі; вывучэнне матэрыяльнай і духоўнай культуры насельніцтва. Важнымі падаюцца нам праблемы этнічнага характару, у першую чаргу славяна-балцкіх кантактаў. Падставамі для вывучэння акрэсленных праблемаў з'яўляюцца археалагічныя, лінгвістычныя (тапанімічныя, гідранімічныя, айканімічныя), фальклёрныя і адзінкавыя гістарычныя крыніцы.

**II. Гісторыя і культура Ваўкавыскага рэгіёну часоў Вялікага княства Літоўскага (XIV-сярэдзіна XVI стст)**. У гэты перыяд з'яўляюцца першыя дакладна ўдакументаваныя звесткі пра паселішчы і культавыя будынкі Ваўкавыскага рэгіёну, значна павялічваецца генеалагічная інфармацыя -спісы і дакументы з прозвішчамі не толькі князёў і шляхты, а таксама сялянаў, мяшчанаў і простых святароў, больш багатай становіцца крыніцазнаўчая база пры асвятленне значных падзеяў. Усё гэта дазваляе глыбей і арыгінальней канструяваць штодзённае жыццё нашых продкаў ( большасць з нас - Ваўкавычанаў ўжо можа даследаваць калі не мінулае сваёй уласнай сям'і, дык мясцовасці, дзе нарадзіліся).

**III. Гісторыя і культура Ваўкавыскага рэгіёну часоў Рэчы Паспалітай (другая палова XVI-XVIII стст.).**

**IV. Гісторыя і культура Ваўкавыскага рэгіёну ў складзе Расейскай імперыі (канец XVIII- пачатак XX стст.).** Для III і IV храналагічных перыядаў застаюцца для вывучэння праблемы папярэдняга II перыяду: гісторыя роднай сям'і і гісторыя родных мясцінаў, шматлікія пытанні палітычнай, вайсковай, сацыяльнай, культурнай гісторыі. Адрозненне толькі ў тым, што колькасць дакладных крыніцаў неверагодна павялічваеца.

**V. Гісторыя і культура Ваўкавыскага рэгіёну ў складзе II Рэчы Паспалітай (20-30-е гады XX ст.)**

**VI.Гісторыя і культура Ваўкавыскага рэгіёну ў часы другой сусветнай вайны (1939-1945 гг.)**

**VII. Савецкі перыяд гісторыі Ваўкавыскага рэгіёну (1945-1991 гг.)** У перыядах звязаных з апошнім, XX стагоддзем неабходна працягваць даследаванне сваіх сем'яў і родных мясцінаў, выкарыстоўваючы архіўныя і друкаваныя крыніцы. Аднак, тут мы сутыкаемся з больш значнай з'явай - гэта ўспаміны непасрэдных сведкаў складаных падзеяў XX стагоддзя. Для нас першасным робіцца збор падобных гістарычных крыніцаў, каб у будучым напісаць гісторыю канкрэтных людзей, якія перажылі рэвалюцыі, шматлікія войны, захопы і вызваленні, калгасы і перабудовы; Леніна і Пілсудскага, Сталіна і Гітлера, Хрушчова, Брэжнева, Гарбачова і перажывуць Лукашэнку.

Узнікае справядлівае пытанне, а як падобны план рэалізаваць, асабліва мясцовым краязнаўцам, якія не маюць магчымасцяў сталічных і гарадзенскіх гісторыкаў? Дадзены план магчыма рэалізаваць, калі краязнаўцы і гісторыкі аб'ядноюцца ў суполку аднадумцаў, сапраўдных патрыётаў сваёй малой Радзімы. Праўда гэтага яшчэ замала. Неабходны пастаянны абмен паміж сабою інфармацыяй, бескарыстная дапамога адзін аднаму і самае галоўнае, мы павінны выдаваць свой рэгіянальны гістарычны часопіс і праводзіць разнастайныя канферэнцыі ( не толькі ў сталіцы рэгіёна горадзе Ваўкавыску, але і ў іншых прыгожых мясцінах любімай Ваўкавышчыны).

СПІС ЛІТАРАТУРЫ:


1 Уладзімір Конан. Антыноміі дэмакратыі і культуры. Нацыянальныя і міжнародныя аспекты // Беларусіка. Кн.3. Мн., 1994. С.102-103.

2 Черепица В.Н. Михаил Осипович Коялович. История жизни и творчества. Гродно, 1998; он же. Очерки истории православной церкви на Гродненщине (с древнейших времён до наших дней). Ч. I. Гродно, 2000.

3 Аляксей Пяткевіч. Як нам вывучаць гісторыю беларускай культуры ? // Беларусіка. Кн.1. Мн., 1993. С.86-87.

4 Уладзімір Пічэта. Чарговыя пытанні беларускай гістарыяграфіі // Спадчына. 1990. № 3. С.18.

5 Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Bialorusi w drugiej polowie XVII wieku. Poznan, 1965; Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII-XVIII в.). Мн., 1975; Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667. Мн., 1995; Karpyza Witold, Henryk Siemienczuk. „Potop" w powiecie Wolkowyskim // Magazyn Polski. 1999, nr. 1(15). S.55-57.

6 У 1911 г. у часопісе Kwartalnik Litewski (rok II. Tom VI. S.106-109) быў надрукаваны цікавы дакумент «Wiadomosci pozabieranzch rzeczy w Plebanij Wolkowyskiej w roku 1812- 3 novembra przez



**Генадзь Семенчук,**
**кандыдат гістарычных навук**

# Архітэктурныя помнікі Ваўкавыскага павету
## (Малюнкі Вітальда Карпызы г.Гожыў Велькапольскі РП)














*"Пачнем зьбіраць зярно к зярняці"*

# ПРАБЛЕМЫ СКЛАДАНЬНЯ РЭГІЯНАЛЬНАГА КРАЯЗНАЎЧАГА КАЛЯНДАРА

Мясцовы краязнаўчы каляндар - гэта той пункт адліку, зь якога пачынаецца плянаваньне працы і школьных настаўнікаў, і бібліятэкараў, і актывістаў грамадзкага руху. У сыстэме вывучэньня гісторыі роднага краю ён зьяўляецца адным з найбольш эфэктыўных чыньнікаў выхаваньня самасьвядомасьці, які забясьпечвае пераемнасьць памяці. Без сумневу, краязнаўчы каляндар ёсьць фактарам, які абуджае ня толькі пачуцьцё нацыянальнага гонару, але й пачуваньне прыналежнасьці да канкрэтнай мясцовасьці. А пры усталяваньні паўнавартаснага самакіраваньня, краязнаўчы каляндар будзе мець яшчэ й практычны, гаспадарча-прыкладны характар.

Рэгіянальны краязнаўчы каляндар можа быць як шырокім, так і тэматычна-спэцыялізаваным. Унівэрсальны каляндар павінен заключаць у сабе наступныя блёкі:

- даты нараджэньня й смерці славутых і вядомых людзей, якія нарадзіліся ці жылі ў канкрэтным рэгіёне;
- час забудовы мясцовых архітэктурных помнікаў, закладаньня садовапаркавых комплексаў, усталяваньня скульптурных помнікаў і мэмарыяльных шыльдаў;
- даты лякальных і найбольш значных агульнадзяржаўных гістарычных падзеяў.

Краязнаўчы каляндар можа складацца на кожны тыдзень (такі варыянт можа друкавацца, напрыклад, у раённай газэце), на год (найбольш распаўсюджаная вэрсыя, якая зьмяшчаецца звычайна у адным з першых нумароў рэгіянальнага выданьня) і ў выглядзе асобнага выданьня, у якім даты будуць упарадкаваны паводле храналягічнага прынцыпу. У апошнім выпадку каляндар мае летапісны характар. Можна складаць такі летапіс і чыста па парадку дзён аднаго каляндарнага году.

**Праблемы, якія ўзьнікаюць пры складаньні рэгіянальнага краязнаўчага каляндара:**

1) Адно з самых складаных пытаньняў гэта **адміністратыўна-тэрытарыяльная "прыналежнасьць" той ці іншай падзеі, асобы.** Так, межы сёньняшніх раёнаў не супадаюць з межамі ранейшых паветаў. Напрыклад, Ваўкавыскі павет быў утвораны яшчэ ў 1507 годзе ў складзе Навагрудзкага ваяводзтва. З рознымі тэрытарыяльнымі ўзбуйненьнямі й "абрэзаньнямі" ён праіснаваў ажно да 1940 году, калі савецкая ўлада скасавала падзел на паветы й ўтварыла значна меншыя па плошчы раёны.

Складаючы краязнаўчы каляндар Ваўкавышчыны, можна абмежавацца сёньняшняй тэрыторыяй, а можна "залазіць" і на сумежныя Зельвеншчыну, Мастоўшчыну, Сьвіслаччыну, землі якіх былі складовай часткай колішняга Ваўкавыскага павету. Складаць больш шырокі тэрытарыяльна каляндар падаецца нават мэтазгодным, паколькі ў краіне даўно насьпела адміністратыўна-тэрытарыяльная рэформа з мэтай узбуйненьня раёнаў.

2) **Блытаніна са старым-новым стылем.** У 1915 годзе на тэрыторыі беларускіх земляў быў уведзены грыгарыянскі каляндар. 21 жніўня стала лічыцца 3 верасьня (даты зьмясьціліся на 13 дзён наперад). Такім чынам адбыўся пераход са старога на новы стыль. Розныя энцыкляпэдыі, даведкавыя выданьні часьцяком падаюць даты паводле розных стыляў. Вельмі важна удакладняць такія моманты.

3) **Тапанімічная дакладнасьць.** Часам складальнікі блытаюць аднайменныя населеныя пункты. Напрыклад, такія тапонімы, як "Каменка", "Новы Двор" сустракаюцца ў розных мясцовасьцях. Тое ж датычыць і гідронімаў (назваў рэчак і вазёраў). Зь іншага боку, розныя крыніцы, здараецца, скажаюць назвы.

У сваю чаргу,здараецца, блытаюць людзей з аднолькавымі прозьвішчамі альбо сваякоў.

4) **Умоўнасьць некаторых датаў.** Мае месца, часьцей за ўсё, калі гутарка ідзе пра час заснаваньня гарадоў ці мястэчак. Што тычыцца асобаў, то ў некаторых выпадках розныя крыніцы падаюць адрозныя даты нараджэньня ці сьмерці.

5) **Крытэрыі адбору асобаў.** Складанае пытаньне, якое носіць перш за ўсё ідэалягічны характар. Такі адбор заўсёды ў той ці іншай ступені суб'ектыўны. Найвялікшыя праблемы пры гэтым узьнікаюць тады, калі справа тычыцца людзей, якія яшчэ жывуць: адныя могуць не хацець фігураваць у каляндары, іншыя могуць пакрыўдзіцца, калі не патрапяць у каляндар. Тое ж тычыцца й адбору падзеяў. Аўтар гэтых радкоў, працуючы над календарамі, імкнуўся абмяжоўвацца гістарычнымі падзеямі да другой сусьветнай вайны, мала закранаючы найноўшую гісторыю.

6) **Тэрміналягічная дакладнасьць.** Агульная праблема ўсёй беларускай гістарычнай навукі. Датычыць перш за ўсё азначэньня характару войнаў, паўстаньняў, іншых гістарычных працэсаў. У гэтай сфэры даўно пара пераадольваць расейскацэнтрычныя міталягэмы. Беларусам ёсьць усе аб'ектыўныя падставы называць вайну 1812 году не Айчыннай, а Грамадзянскай, вайну 1941-1945 гг не Вялікай Айчыннай, а Другой Сусьветнай, паўстаньні 1794, 1863 гадоў не антыцарскімі, а антырасейскімі й нацыянальнавызвольнымі й гэтак далей.

7) **Нацыянальная, канфэсыйная й прафэсыйная прыналежнасьць асобаў**. Надзвычай далікатная сфэра, якая патрабуе дэталёвага вывучэньня. Праблема гэтая зьвязана перш за ўсё з шматмоўнасьцю й рэлігійнай стракатасьцю заходне-беларускага рэгіёну. У некаторых выпадках ня варта пазначаць нацыянальнасьць асобы (тым больш, што часьцей за ўсё невядома, кім сам сябе лічыў чалавек). Зь іншага боку, калі, напрыклад, пісьменьнік пісаў на некалькіх мовах, то можна называць яго беларуска-польскім, альбо беларускарускім.

8) **Пытаньне тапаграфічнай ідэнтыфікацыі аб'ектаў**. Носіць перш за ўсё практычна-прыкладны характар. Так, напрыклад, каб усталяваць мэмарыяльную дошку ў гонар Давыда Яноўскага, аднаго з мацнейшых шахматыстаў сьвету канца дзевятнаццатага стагодзьдзя, неабходна ў Ваўкавыску расшукаць дом у якім ён нарадзіўся, ці вучыўся. Калі гэтыя будынкі не захаваліся трэба вызначыць мейсца, дзе яны знаходзіліся. Добра было б, каб на тапаграфічнай мапе гораду ці мястэчка былі пазначаны ўсе будынкі ці мейсцы, зьвязаныя са знакамітымі людзьмі і вядомымі падзеямі.

Ваўкавышчына дастаткова багаты рэгіён на гістарычныя падзеі й выбітных, знакамітых людзей. Тут пралягалі заваёўніцкія шляхі нямецкіх рыцараў-крыжакоў і войска Напалеона, польскіх, расейскіх, шведзкіх войскаў. Акрамя самога Ваўкавыска былі шырока вядомыя й іншыя населеныя месцы. Так, мястэчка Воўпа мела Майдэборскае (Магдэбургскае) права, карысталася гербам. Воўпа ад пачатку належала князям Гальшанскім, пазьней была ў трыманьні каралевы Боны Сфорца, якая надала Воўпе статус староства. Яшчэ пазьней мястэчка выкупіў славуты канцлер ВКЛ Леў Сапега, які перадаў яго сваім нашчадкам. У наваколлі Воўпы вельмі любіў паляваць кароль Рэчы Паспалітай Сьцяпан Батура (Стэфан Баторый). Магчыма, калі небудзь у Воўпе паўстане музэй паляваньня.

Давыд Яноўскі, які змагаўся з Вільгельмам Стэйніцам за сусьветную шахматную карону, гісторык Язэп Найдзюк-Александровіч (нараджэнец вёскі Бойдаты), акторка Яніна Жэймо, пісьменьнік Усевалад Іваноў, мастак Станіслаў Жукоўскі (нараджэнец вёскі Ендрыхаўцы) удзельнік знакамітых перасоўных выставаўвось толькі некалькі славутых асобаў з Ваўкавышчыны. І, калі мы, як сказаў беларускі паэт-клясык, "пачнем зьбіраць зярно к зярняці", перад намі расхінецца шырокі небасхіл мінулага нашай малой радзімы. Мінулага, якое дазволіць нам з гонарам жыць сёньня і з надзеяй глядзець у будучае.

**Уладзімір Хільмановіч**

*Алесь Госцеў,*
*метадыст ліцэю N1 г.Гродна*

# МЕТОДЫКА КРАЯЗНАЎЧАЙ ПРАЦЫ НА ЎРОКАХ І НА ПАЗАКЛАСНЫХ ЗАНЯТКАХ

Адна з самых цяжкіх і самых актуальных агульначалавечых праблемаў - праблема самапазнання. Гэта адзначаў яшчэ у 6 ст. да н.э. першы гістарычна даставерны старажытнагрэчаскі філосаф Фалес з Мілету. На пытанне: «Што самае цяжкае на свеце?» ен імгненна адказаў: «Пазнаць самога сябе.» І хутчэй за ўсе праблема гэтая не паўставала б так абвострана, каб у школах належным чынам была наладжана краязнаўчая праца.

Мой уласны васьмігадовы вопыт краязнаўчай працы з навучэнцамі 8-11 класаў пераканаўча сведчыць, што найбольш аптымальным сродкам на шляху самапазнання з'яўляецца менавіта краязнаўства. Бо толькі спасцігнуўшы свае ўласныя карані і вытокі, чалавек па-сапраўднаму здольны знайсці сваё месца ў жыцці, валодаць сваім фізічным і духоўным станам, эфектыўна самаўдасканальвацца і аказваць станоўчы ўплыў на іншых.

Дык што ж такое краязнаўства і ў чым заключаецца яго чарадзейнае ўздзеянне на асобу?
Школьнае краязнаўства прадугледжвае ўсебаковае вывучэнне вучнямі бліжэйшай мясцовасці адпаведна навучальным і выхаваўчым задачам школы.
Таму школьнае краязнаўства з'яўляецца бадай што самый масавай і арганізаванай формай краязнаўства.

Паколькі ў шырокім сэнсе пад краязнаўствам разумеюць комплекснае даследванне краю як нейкай цэласнасці, дык тут магчымыя варыянты (напрыклад, комплекснае вывучэнне толькі прыроды ці толькі культуры краю).

У дадзеным выпадку методыка краязнаўчай працы як падчас урокаў, так і падчас пазаўрочных заняткаў разгледжваецца на прыкладзе вывучэння асобных помнікаў культуры Гарадзеншчыны, што ствараліся і ствараюцца на працягу ўсей яе разнастайнай і незвычайна насычанай гісторыі.
Адной з найважнейшых задач такіх заняткаў з'яўляецца ўсебаковае развіцце вучняў і далучэнне іх да даследчай работы.

Метадычнай асновай гэтых заняткаў з'яўляецца інтэграваны падыход да з'яваў культуры (помнікаў культуры). Гэты падыход ужо яскрава прасочваецца ў «Краязнаўчай дыяграме». Інтэграцыя ведаў, уменняў і навыкаў забяспечвае цэласнае даследванне нейкай з'явы рэчаіснасці праз спалучэнне самых разнастайных ведаў аб гэтай з'яве (сінтэз самых разнастайных мадэляў адной і той жа з'явы, якія ствараюцца канкрэтнымі навукамі) з метадам аналогій (пераносам ведаў з адной мадэлі на другую, якасна на яе не падобную).

Таму пачынаць краязнаўчую працу трэба са знаёмства з асновамі разнастайных дапаможных дысцыплінаў (такіх як крыніцазнаўства, храналогія, палеаграфія, тапаніміка, геральдыка, генеалогія і шэраг іншых) і выпрацоўкі ўменняў па іх выкарыстоўванню. Для дасягнення гэтай мэты маецца вялікая і разнастайная літаратура, а для паскарэння і палягчэння працэсу авалодвання дапаможнымі дысцыплінамі ствараюцца метадычныя

рэкамендацыі і памяткі, якія таксама можна выкарыстоўваць настаўнікам гісторыі, геаграфіі, беларускай мовы і літаратуры, іншых спецкурсаў.

А паколькі найбольш эфектыўна пазнавальная прастора можа існаваць толькі ў рэжыме дыялогу (Бахцін, Фларэнская), то спосаб перадачы краязнаўчых ведаў, спосаб замацавання іх практычна будзе найбольш дзейсны, калі ў працэс узаемадзеяння настаўніка і вучнябудзе закладзена як мага больш дыялогу.

Да такіх спосабаў перш за ўсе адносяцца:

- элементы дыялогу падчас выкладання новай тэмы, ці замацавання мінулых тэмаў;
- дыялог «настаўнік-вучань» падчас працы над творчым заданнем «Культура Гродна ў адпаведны перыяд»;
- дыялогавы рэжым падчас групавой працы на ўроку (вызначэнне залежнасці стану культурнага жыцця Гродна ад канкрэтнага гістарычнага перыяду);
- дыскусія падчас абмеркавання праблемных пытанняў (асаблівасці таго ці іншага перыяду, Гарадзеншчыны цалкам);
- дыспуты па тэмах «Роля асобы ў развіцці культуры краю»,;
- канфэрэнцыі.

Такім чынам паміж настаўнікам і вучнямі ствараецца атмасфера супрацоўніцтва, яны становяцца калегамі ў працэсе спазнання гісторыі і культуры роднага краю.

А зараз паглядзім, якімі шляхамі рэалізуецца гэты працэс у розных формах краязнаўчай працы.

Адна з найвялікшых задач навукі - стварэнне сістэмы ведаў, што немагчыма без пастаяннага здабывання, стварэння, назапашвання ўсё новых ведаў. Інакш гаворачы, спасціжэнне ісціны немагчыма без навукова-даследчай работы.

Якраз на стыку разнастайных навуковых дысцыплінаў лягчэй за усё ўтвараюцца новыя веды. Тым больш, што мэта краязнаўства (у шырокім сэнсе) - высвятленне адметнасцяў, своеасаблівасцяў асобнага рэгіёну разам з выяўленнем таго агульнага, што спалучае гэты рэгіён з усёй чалавечай супольнасцю.

І яшчэ - падчас засваення краязнаўчых метадаў працы вучні авалодваюць *прынцыпамі навуковых даследванняў*. І **першы прынцып:** у праявах рэчаіснасці няма дробязяў, тут усё істотна (залежыць толькі ад пункту погляду) і таму нішто не павінна заставацца па за ўвагай даследчыка. Бо нішто не бывае лішняе і нішто не адбываецца выпадкова, усё з усім узаемазвязана.

**Другі прынцып** - любая з'ява павінна разглядацца ўсебакова, памагчымасці з разнастайных пунктаў погляду (памятаючы, што разнастайнасць - падмурак трываласці).

Таму з першых крокаў юныя краязнаўцы павінны вучыцца, з аднаго боку, уменню здабываць факты, а з другога боку - самім ствараць факты. Уласнае тварэнне фактаў у нашым выпадку адбываецца падчас вядзення асабістых дзённікаў. На пачатковы момант у нашых

вучняў цалкам адсутнічае культура вядзення дзённіка. Аб гэтым яскрава сведчаць вынікі самага першага задання на тэму «Мой вучнеўскі (ліцэйскі) дзень», якое вучні атрымліваюць пасля спецыяльнай лекцыі, на якой ім п а д з а п і с даюцца канкрэтныя мінімальныя патрабаванні да дзённікавага запісу дата запісу (дзень, месяц, год, <пажадана - час>), месца запісу (горад, установа, кватэра - па неабходнасці), дакладнае месца падзеі, якая занатоўваецца, дакладныя імёны ўдзельнікаў падзеі. Пры гэтым націск робіцца на тое, што форма запісу - адвольная (верш, проза; тэзіс ці разгорнуты план; сціслая занатоўка асноўнага ці мастацка-вобразная замалёўка), галоўнае - каб цікавая ці значная падзея была зафіксавана на паперы, бо Н А П І С А Н А Е З А С Т А Е Ц Ц А. Пасля некаторага трэнінгу амаль усе задавальняюча выконваюць гэтае заданне. Такім чынам, вучні фіксуюць найноўшыя факты мясцовай гісторыі і культуры, назапашваючы іх дзеля будучыні. Тут, акрамя цярпення (якое з цягам часу змяняецца звычкай і вострай патрэбай), ад іх патрабуецца адчуванне падзеі, уменне вылучаць істотнае і дакладна фіксаваць на паперы.

Другі, не менш важны бок навучання краязнаўству тычыцца працы з ужо існуючымі фактамі, выкарыстоўванні іх у даследчай краязнаўчай працы. А паколькі ў краязнаўстве пры даследванні канкрэтнага помніка культуры факты здабываюцца з крыніц (як з рэчавых, так і з пісьмовых), то перш за ўсё вучні авалодваюць працай з пісьмовымі крыніцамі. А менавіта - з летапісамі. Бо тут асноўны прынцып - давер толькі першакрыніцы, на якой бы мове яна ні была створана (вось чаму краязнаўцу трэба імкнуцца да ведання як мага больш моваў). І пры любым узроўні доследаў катэгарычнае патрабаванне: рознага роду спасылкі, а тым больш цытаты, абавязкова звяраць з першакрыніцай і падаваць з максімальнай дакладнасцю (пры наяўнасці толькі перакладу агаворваць гэта, бо пераклад можа скажаць сэнс нават да адваротнага). Вельмі яскравы прыклад: у выданні «Слова о полку Игоревым...» 1800 года даюцца паралельныя тэксты арыгіналу і перакладу на тагачасную расейскую мову. Дык вось, фраза арыгіналу «Загородите полю ворота своими острыми стрелами...» тут жа побач у перакладзе «Заградите в поле ворота стрелами своими острыми...» («Слово о полку Игореве».- М., 1988.- с.33). Каментар, здаецца, не патрэбны.

А паколькі патрабаванне заўсёды карыстацца першакрыніцамі як правіла праблематычна, дык трэба як мага шырэй ужываць разнастайныя даведнікі і тлумачальныя слоўнікі. Бо і тут, як у выпадку асобнай з'явы, галоўнае - спалучэнне энергіі разнастайнай інфармацыі.

Таму наступныя практычныя заданні, якія вучні атрымліваюць паралельна - стварыць уласны радавод па прапануемай схеме і тапанімію свайго асяродзя (па прапануемай табліцы). Гэтыя заданні не выклікаюць у іх вялікіх цяжкасцяў і выконваюць яны іх з задавальненнем.

Так пры стварэнні ўласнага радавода яны працуюць на першым этапе па схеме «ствала радаводнага дрэва» і звычайна ўжо на наступны ўрок прыносяць інфармацыю пра сваіх бацькоў, бабуль і дзядуль, прабабуль і прадзядуль як мінімум. А перад гэтым вучні засвойваюць асноўныя паняцці генеалогіі на ўзроўні «П а м я т к і г е н е а л а г а» (гл. «Дадатак»).

Такім чынам вучні непасрэдна далучаюцца да практычнага выкарыстоўвання адносна складаных матэматычных выкладак...

На больш грунтоўным узроўні распрацоўка ўласных радаводаў працягваецца з выхадам на стварэнне ўласных радавых гербаў і нават на распрацоўку сямейных летапісаў - разнастайная, комплексная і шматгадовая праца, якая ахоплівае:

1. Даследванне «Паходжанне майго імя і прозвішча» з утварэннем легенды аб паходжанні свайго роду, лінгвістычным даследванні ўласнага імя і прозвішча (тут на дапамогу трэба паклікаць разнастайныя дзвюх- і трохмоўныя, тлумачальныя, этымалагічныя слоўнікі і слоўнікі мясцовых гаворак), апісанні знакамітых аднафамільцаў і найбольш адметных сваякоў.
2. Стварэнне ўласнага радаводу (не менш як па трох генеалагічных схемах «ствол радаводнага дрэва», «радаводнае дрэва», пакаленны роспіс), дзе з максімальна вызначанай паўнатою будуць зафіксаваны ўсе сваякі (іхныя імёны і прозвішчы, гады жыцця, месца нараджэння) як мінімум да чацьвёртага-пятага калена.
3. Стварэнне біяграфічнага слоўніка сваякоў; тут (таксама з масімальнай паўнатою) фіксуюцца ўсе вядомыя звесткі з жыцця і дзейнасці ўсіх продкаў,як непасрэдных, прамых (згодна «ствалу радаводнага дрэва»),так і дваюрадных-траюрадных (згодна з пакаленным роспісам), уключаючы сучаснікаў - родных і дваюрадных сясцёр і братоў, цётках і дзядзькаў.
4. Збор і апрацоўку сямейнай перапіскі.
5. Апісанне сямейных легенд,паданняў,традыцый.
6. Стварэнне альбомаў сямейнай іканаграфіі (акрамя сямейных фотаздымкаў і іншых адлюстраванняў сваёй радзіны, тут збіраюцца розныя дакументы: пасведчанні аб нараджэнні і смерці, атрыманні адукацыі, нейкіх узнагарод і шмат чаго іншага).

7. Распрацоўку ўласнага радавога гербу, што патрабує ведання трыдыцый беларускай геральдыкі.

Зыходная пасылка для здзяйснення вышэйзначанай працы: кожны мае права на ўласную несмяротнасць. А ў выніку атрымаецца шырокая панарама канкрэтнага ўдзелу кожнага мясцовага (а можа і прышлага) жыхара ў стварэнні гістарычнай прасторы не толькі свайго роднага кута, але і ўсёй бацькаўшчыны,з паглыбленнем у этна-сацыяльныя карані насельніцтва канкрэтнай вёскі, гораду, раёну, усёй Беларусі.

Рэферат «Паходжанне майго імя і прозвішча» мае інтэграваны характар і калі заданне на яго даваць па адным са спецкурсаў (і, як варыянт, - скаардынаванае калектыўнае заданне ўсіх выкладчыкаў спецкурсаў і настаўнікаў асобных прадметаў базавага цыклу) згодна з навучальным планам, то адзнакі можна ставіць адразу па ўсіх гэтых прадметах (кожным выкладчыкам ці настаўнікам асобна). Сярод абавязковых прадметаў тут могуць быць беларуская мова ці руская мова і літаратура, замежная мова, гісторыя Беларусі і сусветная гісторыя; сярод спецкурсаў - мастацкая культура, філасофія, краязнаўства... Пры такім падыходзе дасягаюцца некалькі мэтаў: скарачэнне нагрузкі вучняў падчас выканання хатніх самастойных працаў творчага характару, фарміраванне цэласнага ўспрымання асобнай з'явы культуры ці прыроды, атрыманне ў рэшце рэшт пісьменнай і грунтоўна адукаванай асобы.

Вельмі важны напрамак краязнаўчай працы як адкрытай сістэмы - так званая т а п а н і м і ч н а я р а з в е д к а. Па спецыяльна распрацаванай тапанімічнай схеме вучні праводзяць апытанні мясцовага насельніцтва і даведваюцца аб ягоным уяўленні тых ці іншых тапонімаў (запіс адказаў робіцца дакладна, слова ў слова, каб зафіксаваць асаблівасці гаворкі).

І вельмі адметна, што нават старажылы амаль цалкам не ведаюць пачатковага сэнсу тапоніма, гісторый ці паданняў звязаных з ім. Гэта тычыцца нават адукаваных, з гістарычнай адукацыяй, рэспандэнтаў. Для прыкладу, некалькі такіх адказаў

| Т а п о н і м | Тлумачэнне |
|---|---|
| К а л о ж а | Тут калісьці быў калодзеж; Ад слова «калюжа» - «лужына»; «От слова «коло», польское - «около». Исходит из определения, что вокруг этого есть; окрестности церкви дали это понятие». |
| П ы ш к і | Ад слова «пышно», польск. - вкусно (приятно,красиво). |
| З а в е р ш ч ы з н а | «Завершает путь к городничанке, движение к оврагу»; «Завершение города». |
| Г р а н д з і ч ы | «Большая деревня (искажонное французкое)». |
| П е р а с ё л к а | Через что-то...; перейти через то, заселено, через заселённое место на пути в лес». |
| Ф а р т ы | «Укрепление...дальние времена (в Бресте связаны с Карбышевым) здесь - времён Наполеона». |
| Ю р ы з д ы к а | «На гэтым месцы бедныя яурэі будавалі дамы. Існавала няпісанае правіла калі раніцай прадстаўнікі ўлады знаходзілі недабудаваную, непрыстасаваную да жытла хату, яе разбуралі, а гора-будаўніка каралі; калі за ноч паспявалі абжыць хату, усё было добра лічылася, што так і трэба. З цягам часу ўся Каложская даліна аказалася забудаванай такім чынам (ажно да Швейцарскай даліны) і тады магістрат «дэ факта» пераўтварыў у «дэ юрэ», а само гэтае месца атрымала назоў Юрыздыка» |

Запаўняючы табліцу-тапанімію свайго раёну, вучні звычайна дапаўняюць яе дадатковай інфармацыяй, пачутай ад бацькоў ці суседзяў. Да прыкладу:

- «вул. Вольгі Соламавай (старая з 1957 г., новая з сяр.1970-х гг.). На месцы вуліцы раней былі балоты Аўгустоўкі (графа Аўгустоўскага). Менавіта на месцы першых дамоў раслі цудоўныя сады.(Наталля Ц. 22.03.94 г.)» (аналізуючы гэтую інфармацыю на ўроку ўдакладняем, што назва «Аўгустоўка» паходзіць ад імя караля польскага і вялікага князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які меў тут у 1770-1795 загарадную рэзідэнцыю);
- «вул. Даватара Л.М. (1903-1941) з 1962 на месцы пшанішчнага поля (запісана са слоў суседа Анатоля Іванавіча Калцюгі)» (Наталля Д.);
- «вул. Маякоўскага раней месца гэтае называлася «Калонія Астравок» і жыў памешчык, да вул. Карскага было поле» (Андрэй Ж.) (высвятляем, што па неўдакладнёным дадзеным «Калонія» - нешта накшталт летніка ў палякаў; значыць, трэба шукаць далей...

Наступнае заданне звязана з падрабязным знаёмствам з Магдэбурскім правам па адпаведнай літаратуры.

Далей робіцца спроба прачытання гербу аднаго з насельных пунктаў Гарадзеншчыны, які меў Магдэбурскае права,па наступнаму алгарытму высвятляецца гісторыя насельнага пункту (да моманту атрымання гербу), аналізуецца (з дапамогай лінгвістыкі) назва гэтага населенага пункту, высвятляюцца і асэнсоўваюцца ўсе магчымыя паданні пра яго, сімволіка геральдычных фігур, фініфцяў і металаў; і толькі пасля атрымання ўсіх неабходных фактаў, яны спалучаюцца, і робіцца спроба прачытаць герб як нейкі зашыфраваны тэкст, як нейкую піктаграму.

У якасці асноўнага даведніка выкарыстоўваецца кніга Анатоля Цітова «Гарадская геральдыка Беларусі» (Мн.,1989) / зараз ужо маецца перавыданне гэтай кнігі пад назвай «Геральдыка Беларускіх местаў» (Мн.,1998)/. Гэтая кніга - своеасаблівы каталаг гарадскіх гербаў Беларусі. Але, паколькі ў працы А.Цітова напрач адсутнічаюць звесткіпа этымалогіі і сімволіцы, вучням прапануецца так званая «Памятка геральдыста» (гл. «Дадатак») і дадатковая інфармацыя-памятка

1. Лінгвістычная падказка (з тапанімічных слоўнікаў):
- Астрына - ад прозвішча Астрэйка, Острень, Вострьі;
- Ашмяны - ад літоўскага akmenas=камень;
- Воўпа - вадаток з зараснікамі рдэста ці стрэлаліста; олпа, алапа - водная раслінасць;
- Геранёны - ад літоўскага geranonis=дабражадацелі;
- Жыровічы - ад прозвішча Жыровіч;
- Крэва - ад крывічаў ці ад міфалагічнага Крэва-Крывейта, вярхоўнага жраца;

- Ліда - ад літоўскага lidimas - вырубка, lidis - бег, цячэнне;
- Любча - у старажытнасці - месца шлюбных рытуалаў, сустрэч, гульбішча;
- Прывалка - месца ля валу ці рову;
- Слонім (Услонім) - ад слоў «прысланяць», «засланяць», «услоняць».
2. Сімволіка (з разнастайных даведнікаў і слоўнікаў сімвалаў)
- ф і н і ф ц і чырвоная - храбрасць, мужнасць, адвага; блакітная - велічнасць, прыгажосць, яснасць; зялёная - надзея, свабода, воля да вольнасці, дабрабыт;
- м е т а л ы золата - багацце, сіла, вернасць, чысціня, пастаянства; срэбра - дасканаласць, духоўнасць, адраджэнне, вечнасць, розум, свядомасць, несвядомасць, мудрасць, інтуіцыя, сіла духа, чысціня, цнатлівасць, пачцівасць, радасць, весялосць, надзея, прастата, дабрыня;
- г е р а л ь д ы ч н ы я ф і г у р ы:
брама - краіна, горад;
вагі - справядлівасць, суд, роўнасць;
воўк - цемра, знішчэнне, голад, дзікунства, зайздрасць, крыважэрнасць, драпежнасць, падазронасць, апека;
зорка - мудрасць, прызначэнне ўлады;
месяц - шляхецтва;
рак - драпежнасць, злы гумар, глупства, вяртанне да хаасу, лянота, павольнасць, асцярожнасць, нясмеласць, нязграбнасць, адраджэнне, уваскрашэнне;
рука - прысутнасць бога і яго ласка, улада, павага, аўтарытэт;
меч - касмічная вось, прамень Сонца, маланка, справядлівасць, вольнасць, сіла, ахова, вайна, адвага, знішчэнне;
тарч (шчыт) - ахова, сіла, смеласць, перамога ў бітвах, праўда, мудрасць, пакой, вернасць, давер, падазронасць;
цялё (бык) - сонца, агонь, князь, зямля, сілы апенкунчыя, ахвяра, смерць, чысціня, цярпенне, пакой, багацце, пладавітасць, адвага, мужнасць.

У якасці «эталоннага» прачытання гербу Гродна вучням прапануўваецца ксеракапіраваны артыкул выкладчыка курсу»Гародня - свабодалюбівая» («Чырвоная змена»,14.01.1989). І выніку такой працы доўга чакаць не прыходзіцца. Для ўзору прыводжу вытрымкі з асобных рэфератаў

**ВАЎКАВЫСК** (у блакітным полі срэбраная галава ваўка, які вые) - «герб створаны адпаведна законам геральдыкі і дакладна супадае з назвай горада (так званы «гласны герб»); элементы гербу ўзаемадзейнічаюць паміж сабою, у выніку чаго ўсе адмоўныя рысы сімволікі ваўка «забіваюцца» пануючымі значэннямі блакітнай фініфці і ў рэшты рэшт пакідаецца адна толькі станоўчая рыса апека; такім чынам, «згодна свайму гербу прыгожы велічны горад Ваўкавыск - апекун сваіх жыхароў». (Вераніка І.).



**ЛІДА** (поле шчыта рассечана на дзве часткі; правая - чырвоная фініфць з залатым ільвом, павернутым управа, левая - блакітная з двума залатымі скрыжаванымі ключамі) - «на чырвоным полі (чырвоная фініфць - мужнасць, адважнасць, храбрасць) намалёваны леў, таму што жыхары горада верылі ў тое, што менавіта леў дапаможа ім здабыць сілу духа, верылі ў тое, што іх горад больш не будзе захоплены іспалены ворагам; выявай льва людзі паказалі сваю моц, сваю гатоўнасць абараняць свой горад, паказалі і сваю адвагу гэты леў нібы адпужвае ўсіх ворагаў; ён як бы гаворыць «Хто прыйдзе да нас з мячом, той і згіне ад мяча»; леў адпужвае ворагаў, але ён ветліва ставіцца да сяброў горада; таму леў залаты...ключ сімвалізуе павагу, уладу, апеку, вернасць, жыццё, пачатак, вызваленне, звальненне, аддзяленне, тамнічасць, асцярожнасць, разважанне...; адзін з ключоў - знак вызвалення ад залежнасці і разам з гэтым вызваленне адусіх грабежніцкіх войнаў і пачатак новага жыцця; але ўсёж такі да гэтага новага жыцця, жыцця без войнаў, трэба ісці асцярожна і разважліва, і тады, у канцы гэтай дарогі да новага жыцця будзе нешта чакаць; але штоў невядома;будучыня - гэта таямнічасць; вось усё гэта - асцярожнасць і разважлівасць, таямнічасць - сімвалізуе другі ключ; і ключы на блакітным фоне (блакітная фініфць - прыгажосць, мяккасць, веліч) - сімвалы будучыні, ключ ад якойадлюстраваны на гербе горада Ліды» (Наталля М.).

**РАДУНЬ** (у срэбраным полі чырвоны рак) - чысціня, дабрыня і нават цнатлівасцьсрэбра, а таксама храбрасць, мужнасць і адважнасць чырвонай фініфці «забівае» адмоўныя якасцірака, прыводзіць да таго «што часам гэты лайдак адраджаўся, у ім выраслалі цудоўныя людзі» (Наталля Р.).

## ДАДАТАК

### 1. Памятка генеалага.

Слова «генеалогія» грэчаскага паходжання (genealogia = радавод); азначае дапаможную гістарычную дысцыпліну, якая вывучае гісторыю родаў, паходжанне асобы, высвятляе сваяцкія сувязі, займае
цца складаннем радаводаў; мае цесную сувязь з геральдыкай. Цікавасць да свайго паходжання ўласціва чалавеку спрадвеку. Уяўленні аб асаблівым значэнні крэўнага сваяцтва складалі найважнейшую частку грамадскай свядомасці і культуры. Чалавек жыве на зямлі 1 млн год (= 10 000 стагоддзяў = 40 000 пакаленняў). Утульная графічная форма фіксацыі сваяцкіх сувязяў - генеалагічная табліца (існуе некалькі відаў). Ужываюцца таксама радаслоўныя роспісы з сістэмай нумарацыі сваяцтва. Мінімальныя звесткі пра ўласных прамых продкаў уключаюць прозвішча і імя, даты жыцця, месца нараджэння, род заняткаў. Прапануюцца пачаткі пакаленнага роспісу прысваенне нумароў прадстаўнікам уласнага «ствала» па прынцыпу”N.M.», дзе «N» - нумар «калена» (для «Я» N=0), «М» - парадкавы нумар продка ў «калене» (прычым жанчыны нумаруцца няцотнымі лічбамі 1,3,5,..., а мужчыны - цотнымі 2,4,6,...); такім чынам, маці мае нумар 1.1, бацька 1.2, бабуля па маці - 2.1, дзядуляпа маці - 2.2, бабуля па бацьку - 2.3, дзядуля па бацьку - 2.4; у трэцім калене маем ужо восем продкаў 3.1, 3.2, 3.3, 3.4, 3.5, 3.6, 3.7 і 3.8 - гэта чатыры прабабулі і чатыры прадзядулі,якія нумаруюцца па вызначаным правілы; чацвёртае «калена» - гэта ўжо прапра- мае 16 членаў. Выразна прасочваецца заканамернасць, згодна якой колькасць членаў у К-тым «калене» К=2 (дзе N - нумар «калена»). Агульная колькасць

продкаў вызначаецца формулай K= 2 , а уся колькасць членаў роду да N-га «калена» уключнаK=2. У 80-м «калене» (гэта значыць напачатку нашай эры) у кожнага з нас тэарэтычна павінна быць 2= 604 462 909 807 314 587 353 088 продкаў (чытаецца 604 сэксцільёна 462 квінцільёна 909 квадрыльёнаў 807 трыльёнаў 314 міліярдаў 587 мільёнаў 353 тысячы 88 чалавек). Але паколькі за ўсю гісторыю на Зямлі не жыло столькі людзей, то на гэтым прыкладзе ўсць цудоўная магчымасць паказаць як трэба ўвязваць тэорыю з практыкай (матэматыку з рэальнасцю) у жыцці, пачынаючы ўжо з трэцяга калена ў кожнага з нас могуць быць агульныя продкі (а з павялічэннем нумара «калена» верагоднасць гэтага значна павялічваецца), таму агульная колькасць сапраўдных продкаў рэзка памяншаецца і можа быць вылічана толькі пры дасканалым веданні свайго радаводу як мага глыбей.

**Схема «ствала радаводнага дрэва»**

Я — -нулявое «калена» (1 асоба)
^
мама — тата — - першае «калена» (2 асобы)
^ ^
баба дзед — баба дзед — - другое «калена» (4 асобы)
^ ^ ^ ^
прабабы і прадзеды — - трэцяе «калена» (8 асобаў)

---------------------------------------------------------------

прапрапра--- прадзеды — - N-нае «калена» (2 у ступені N асобаў

**2. Памятка геральдыста**

Слова «герб» запазычана з польскай мовы і сустракаецца ў
многіх славянскіх дыялектах у значэнні «спадчыннік»або «спадчына».

Герб - спадчынная эмблема адрозніваня; спалучэнне фігур і прадметаў паводле рэгламентаваных норм геральдыкі, якім надаецца сімвалічнае значэнне і якія выражаюць гістарычныя традыцыі ўладальніка.

Кожны герб абавязкова павінен мець гербавы шчыт адпаведнай формы і звычайна адну або некалькі геральдычных ці негеральдычных фігур. Шчыт дазваляецца падзяляць на некалькі частак. Для беларускіх гербаў характэрна французская ці нямецкая выразная форма шчыта. Адрозніваюць шэсць геральдычных фігур: глава шчыта (2/7 яго вышыні зверху пазначаецца іншым колерам); аканечнасць ці падножжа /падэшва/ (2/7 вышыні шчыта знізу вызначаюцца іншым колерам; столб (1/3 шырыні шчыта - з любога боку ці пасярэдзіне - вызначаецца іншым колерам);пояс (1/3 вышыні шчыта пасярэдзіне - можа быць ці вышэй, ці ніжэй - вызначаецца іншым колерам); перавязь (1/3 шчыта па любой дыяганалі вылучаецца іншым колерам); страпіла (дзве сустрэчныя перавязі, якія не дасягаюць верху шчыта) - гэтая фігура лічыцца галоўнай; страпіла можа быць перагорнутае.

Негеральдычныя фігуры падзяляюцца на натуральныя (жывыя істоты, нябесныя свяцілы, стыхіі (агонь, вада), штучныя (прадметы, створаныя чалавекам),
легендарныя (істоты, якія не існуюць у прыродзе дракон, двухгаловы арол, пегас, птушка Фенікс). Не дапушчальна размяшчэнне негеральдычных фігур на мяжы шчыта, а таксама непасрэднае спалучэнне паміж сабою як фініфцяў (колераў), так і металаў.

- фініфці:

1. Чырвоная - сімвал храбрасці, мужнасці, адвагі.
2. Блакітная - сімвал велічнасці, прыгажосці, яснасці.
3. Зялёная - сімвал надзеі, свабоды, волі да вольнасці, дабрабыту.

- металы

1. Золата - сімвал багацця, сілы, вернасці, чысціні, пастаянства, вялікадушша, справядлівасці; адлюстроўваецца жоўтай фарбай ці графічна - кропкамі.
2. Срэбра - сімвал дасканаласці, духоўнасці, адраджэння, вечнасці, розуму, свядомасці, несвядомасці, мудрасці, інтуіцыі, сілы духа, чысціні, цнатлівасці, пачцівасці, радасці, весялосці, надзеі, прастаты, дабрыні; адлюстроўваецца чыстым белым полем шчыта.

Поле шчыта, у якім месцяцца геральдычныя фігуры, можа падзяляцца на часткі.

Сімвал - сістэма знакаў. Сімвалы геральдычных фігур, фініфцяў і металаў узаемадзейнічаюць паміж сабою, накшталт словаў у тэксце (канкрэтная значнасць таго ці іншага сімвалу можа ўзмацняцца, а можа і зніжацца да поўнага знікнення), таму канчатковы сэнс (выніковая сімволіка) выяўляецца ў «кантэксце» усяго гербу, які магчыма прачытаць як нейкі тэкст.

Андэй Чарнякевіч

# Палітыка польскіх школьных уладаў у Ваўкавыску падчас польска-савецкай вайны 1919-1920 г.г..

Згодна польскаму перапісу, у канцы 1919 г. у Ваўкавыску было 8473 жыхароў 36,4% з якіх складалі палякі, 2,1% - беларусы і 58% - яўрэі. Тады як усяго па павеце з 97215 жыхароў да палякаў сябе аднеслі 57,8%, беларусамі назваліся 17,9% і 11,5% - яўрэямі.[1] Па перапісу 1921 г. насельніцтва толькі аднаго Ваўкавыска павялічылася да 16090 чалавек, з іх больш 50% складалі яўрэі.[2] Улічваючы, што ў 1919 г. натуральны прырост насельніцтва ў павеце склаў 73 чалавекі, а ў 1920 - 241, павялічэнне амаль у два разы жыхароў Ваўкавыска адбылось выключна за кошт вяртання бежанцаў, большасць з якіх былі праваслаўнымі.[3] Між тым, на 1919 г. у павеце засталося толькі 10 праваслаўных прыходаў, тады як за час першай сусветнай вайны значным уплывам, асабліва на вёсцы, пачалі карыстацца каталіцкія парафіяльныя камітэты. Гэта яшчэ больш паглыбляла падзел мясцовага насельніцтва на "палякаў" і "рускіх" па рэлігійнай прымеце. "...Раздзел, які робяць каталіцкія ксяндзы ў нашым народзе, - пісаў з абурэннем у студзені 1919 г. у сваім дзённіку А.Луцкевіч, - гэта такі страшэнны праступак проці нашага народу, што вынішчэнне Польшчы пры помачы самага страшнага тэрору бальшавікоў было бы толькі лёгкай карай за падобную ганебную работу. ...Тут ратунку беларусам можна ждаць толькі ад бальшавізму, і палякі іх гвалтам у яго заганяюць".[4] Гэткая "саветызацыя" беларускага нацыянальнага руху мела месца ў Ваўкавыску, калі ў канцы снежня 1918 г. на сялянскім павятовым з'ездзе пры падтрымцы нямецкіх уладаў была створана Ваўкавыская беларуская сялянская павятовая рада на чале з Т.Даннілюком. Беларускую раду Ваўкавыска ўзначаліў Маеўскі. Менавіта Т.Данілюк і Маеўскі, згодна А.Луцкевічу, разам з К.Цярэшчанкай, прадстаўніком літоўскага ўрада ў Ваўкавыскім павеце і павятовым нацыянальным камісарам БНР, і ягоным памочнікам А.Борыкам павялі беларускія арганізацыі "па сістэме савецкай, хоць самі былі зусім не бальшавікамі".[5]

13 лютага 1919 г. у Ваўкавыск увайшлі польскія часткі Літоўска-беларускай дывізіі ген. В.Івашкевіча. "Польскія вайска... нясуць вам усім вольнасць, - гаварылась у выданай 22 красавіка 1919 г. адозве Ю.Пілсудскага да жыхароў б.ВкЛ, - З тым, каб даць вам магчымасць вырашэння ўнутранных, нацыянальных і рэлігійных спраў, так, як самі гэтага будзеце жадаць, без ніякага гвалту ці націска з боку Польшчы".[6]

Асаблівасцю перыяда польска-савецкай вайны 1919-1920 г.г. з'яўлялася існаванне на акупаванай тэрыторыі Беларусі, ў якасці часовага інстытута польскай адміністрацыі, Грамадзянскага ўпраўлення ўсходніх зямель. Дэкрэтам Ю.Пілсудскага ад 12 мая 1919 г. грамадзянскае кіраванне тэрыторый, занятых польскім войскам, пераходзіла да Генеральнага камісара. Адначасова, 13 мая Ю.Пілсудскі выдаў загад, падзяліўшы сферу дзеяння вайсковых уладаў і Грамадзянскага ўпраўлення. Генеральным камісарам усходніх зямель першапачаткова быў прызначаны Л.Каланкоўскі, якога 15 красавіка 1919 г. на гэтай пасадзе змяніў Е.Асмалоўскі.[7]

Ваўкавыскі павет налічваў 18 гмін: ізабелінскую, падорскую, біскупіцкую, зельвінскую, роскую, цярэшкаўскую, пескаўскую, поразаўскую, свеціцкую, лускоўскую, свіслацкую, мсцібоскую, ялоўскую, тарнопальскую, зельвенскую, междурэчанскую, славатыцкую і крэмянецкую.[8] Восенню 1919 г. у Ваўкавыскім павеце існавала чатыры бальніцы: дзьве ў Ваўкавыску - павятовая на 50 ложак і гарадская на 40, у Свіслачы на 20 ложак і ў Зельве на 20.[9] У павеце працавала шэраг кааперытываў, арганізацый і г.д.: Ваўкавыскі аддзеў Саюза дваран, каапературыў рамесленікаў-яўрэяў у Ваўкавыску, Свіслацкі сельскагаспадарчы гурток "Разам", "Залатая будучыня" ў Шыдловічах, таварыства народнага дома ў Свіслачы і г.д..[10] На 18 гмін Ваўкавыскага павета ў 1919 г. прыходзілася 441.864 марак зямельнага падатку, 632977 марак прамысловага падатку ад 744 прадпрыемстваў, каапературываў і г.д. і, нарэшце, 38675 марак падатку за нерухомую маёмасць ад 825 прыватных уладальнікаў.[11] Ваўкавыскі павет атрымаў за 1919 - кастрычнік 1920 г.г. гуманітарнай дапамогі: мукі - 66766 тон, малака - 40301, бабоў - 42134, рысу - 25618, цукру - 10309, мяса - 6093, агародніны - 2187, мыла - 1765, солі - 1305, какао - 4579. Акрамя гэтага, павятовы камітэт атрымаў да ліпеня 1920 г. 1971 штук цёплага адзення, 1867 пар абутка і 2986 пар панчохаў.[12] 25 чэрвеня 1919 г. выйшаў закон аб часовых гарадскіх радах, які першапачаткова ахопліваў гарады Брэст, Гродна, Кобрын, Ліду, Наваградак, Ашмяны, Пінск, Пружаны, Слонім і Ваўкавыск. Ваўкавыскі выбарчы камітэт для выбараў у часовую гарадскую раду ўзначаліў Я.Масальскі. 20 ліпеня 1919 г. былі вызначыны выбары ў новую гарадскую раду Ваўкавыска.

Да арганізацыі школьніцтва на занятых тэрыторыях польскія ўлады прыступілі ў маі 1919 г., калі пры Генеральным камісарыяце пачаў працаваць аддзеў адукацыі і былі адчыненыя першыя павятовыя школьныя інспектараты: у маі 1919 г. у Гродна і Лідзе, у чэрвені - у Свянцянах і г.д..[13] Ваўкавыск з'яўляўся своеасаблівым выключэннем. Польскі школьны інспектар С.Ціер ( S.Cier ) прыбыў у горад яшчэ 8 красавіка 1919 г., у той час, як значная частка Гарадзеншчыны знаходзілася пад савецкай уладай, а ў Гродна заставаліcь нямецкія войскі. На гэты час у павеце працавала 5 польскіх элементарных школаў, у тым ліку ў Ваўкавыску, Росі і Поразаве, з 9 настаўнікамі і 388 вучнямі. Рускіх, беларускіх і нямецкіх школ, згодна данясенню інспектара, не існавала. "Прыехаўшы ў красавіку 1919 г. у Ваўкавыск, - дакладаў праз год С.Ціер, - я знайшоў асвету ў поўнам заняпадзе. Школьныя будынкі былі разрабаваны мясцовымі жыхарамі... Існавалі толькі яўрэйскія школкі, у якіх выкладала каля 30 настаўнікаў".[14]

Школьны павятовы інспектар - рэферэнт асветы, быў падначалены ў сваей прафесійнай дзейнасці выключна вышэйшым школьным уладам. Аднак, ён мог зварочвацца да старасты па пытаннях гаспадарча-адміністратыўнага характару, а так сама прызначаў са згоды старасты тэрмінам на адзін год настаўнікаў пачатковых школ. Да абавязкаў школьнага інспектара, акрамя іншага, адносілася выплочванне заробка настаўнікам, атрыманне для іх пры пасрэдніцтве старасты дапамогу ад гарадскіх і сельскіх гмін. "Павятовы інспектар, - гаварылася у інструкцыі Секцыі асветы, - не мог прымаць удзеў у палітычных акцыях і, ў сваю чаргу, павінен быў астэрагчы ад гэтага падуладных яму настаўнікаў.[15]

16 красавіка гарадская рада Ваўкавыска вырашыла адчыніць у горадзе гімназію і 2 новых школы. Аднак, да 25 лістапада

1919 г. інспектар ніякай дапамогі ад гарадскіх уладаў не атрымаў. Больш карыстнай было супрацоўніцтва школьнага інспектара з Польскім школьным таварыствам ( Polskaj macierzej szkolnaj ). Таварыства было заснована ў Ваўкавыску 9 сакавіка 1919 г. у складзе 43 сябраў пад кіраўніцтвам Біспінга. Акрамя яго ў праўленне ўваходзілі Мейштоўскі - віцэ-старшыня, кс.-прэфект Борзым - скарбнік, Павеска - сакратар і Вольскі - наместнік сакратара і скарбніка. Рэвізійную камісію складалі Каленкевіч, Біспінг, Адлянецкі-Пачобут. Польскае школьнае таварыства пачало працу з пошука сродкаў на развіццё адукацыі. У дзень Божага цела сябры таварыства атрымалі за продаж марак сваёй арганізацыі 1755 мк 20 ф. 20 ліпеня яны ж арганізавалі фантавую латарэю і вечарыну памяці перамогі пад Грунвальдам, зарабіўшы 7 тыс. мк. Навучальную працу Таварыства пачало з арганізацыі летніх настаўніцкіх курсаў, на якіх выкладалі Завадцкі і Влацек. 17 кастрычніка Таварыства арганізавала курсы адукацыі для дарослых, на якія хадзіла больш чым 30 чалавек. Акрамя таго, Таварыства набыла школьныя дапаможнікі. Восенню 1919 г. Польскае школьнае таварыства ў Ваўкавыску падзялілася на дзьве секцыі: адукацыйную і гімназіяльную, зрабіўшы адной з галоўных мэтаў сваёй дзейнасці апеку над гарадской гімназіяй.[16]

Вясной 1919 г., калі польскі школьны інспектар толькі прыбыў у горад, у будынку былой гімназіі знаходзіўся вайсковы шпіталь. 6 ліпеня 1919 г. С.Цier арганізаваў камітэт па адкрыцці гімназіі, які і ўзначаліў. Новая гімназія налічвала 4 класа. Першым яе дырэктарам у кастрычніку 1919 г. быў абраны Луканоўскі, кандыдат філасоўскіх навук Пецярбургскага універсытэта, былы кіраўнік польскай гімназіі ў Віцебску. Вясной 1920 г. яго змяніў на гэтай пасадзе Гандзярскі. Усе настаўнікі ў гімназіі былі палякамі. Абавязкі школьнага перфекта, хутчэй за ўсё, выконваў кс.К.Боржыма, былы перфект чыгуначнай школы ў Ваўкавыску.Гімназія часова размясцілася ў будынку былой народнай школы і спачатку працавала за кошт складак 100 найбольш забяспечанных бацькоў. Усяго восенню 1919 г. у яе запісаўся 261 вучань.[17]

У снежне 1919 г. намаганнямі школьнага інспектара з мэтай прапаганды былі арганізаваны святочные вечарыны па вясковых школках на якія інспектар ад імя ўлады ахвяраваў свечкі, кніжкі, каляровую паперу і г. д.. За падарункамі для дзяцей ад польскага ўрада звярнулася каля 40 настаўнікаў.[18]

Кіраўнік сэкцыі народнай асветы пры Генеральным камісарыяце Л.Заржэцкі патрабаваў ад школьных інспектараў уключаць у бюджэт толькі рэальна існуючыя школы, пазбягаючы мнагакратнага завышэння сум дзяржаўных датацый. "Разумею, - зварочваўся ён у сваім загадзе да школьных інспектараў, - якія цяжкасці стаяць на шляху развіцця адукацыі на Ўсходніх землях. Аднак, гэтую мэту магчыма дасягнуць толькы пры ўмове сумленнага і дакладнага выкарыстання народных грошаў. Таму, неабходна выключыць пагубную практыку атрымання ад цэнтра, як магчыма большых сум без выразнай патрэбы". Школьны інспектар Ваўкавыскага павету восенню 1919 г. неаднаразова прасіў выдзяліць яму 206.506 марк на развіццё школьнай справы. У атказ ён атрымліваў ад кіраўніка фінансавай секцыі В.Гарлацкага патрабаванне тлумачэння, на якія выдаткі патрэбныя гэткія сумы. Да верасня 1919 г. дзяржаўная дапамога склала ўсяго 1728 марак. С.Цier даваў гэткія тлумачэння, пісаў, што яму патрэбны матэрыялы на адбудову школ, тады як толькі аднаго шкла было замоўлена 6162 кв.м.. На першы квартал 1920 г. школьны інспектар атрымаў ужо 143010 марак і яшчэ 50 тыс. - на рамонт свіслацкай гімназіі, дзе ў будынку б. праваслаўнай ( пры немцах - беларускай ) настаўніцкай семінарыі часова размясцілася прытулкавая школа для 100 дзяцей, арганізаваная Апякунчай радай Ваўкавыскага павета. Усяго з 1 кастрычніка 1919 г. па 31 сакавіка 1920 г. С.Цier выдаў 377473 марак. На 2-е паўгоддзе 1920 г. Ваўкавыскі школьны інспектар атрымаў крэдыт у памеры 217176 марак, тады як усяго бюджэт на 1920 г. складаў 1.706.217 марак.[19]

На 25 лістапада 1919 г. у павеце ўжо працавала 23 дзяржаўных школы. Адной з праблемаў адукацыі на "крэсах" быў недахоп кваліфікаваных польскіх настаўніцкіх кадраў. Пры дапамозе Таварыства настаўнікаў вышэйшых і сярэдніх школ было арганізавана некалькі настаўніцкіх курсаў у Галіцыі. Адтуль у Беларусь прыбыло некалькі сот настаўнікаў. Большасць прыбыўшых польскіх настаўнікаў дрэнна ўяўлялі сабе асаблівасці нацыянальных адносін у рэгіёне. Агульны узровень пачатковых школ быў нізкім, а самі настаўнікі часта станавіліся прычынай абвастрэння міжнацыянальных адносін. На акупаванай тэрыторыі ў 1919-1920 г.г. было таксама, арганізавана шэсць беларускіх настаўніцкіх курсаў, аднак большасць іх слухачоў працы не атрымалі. Пасля з'езда школьных інспектараў Брэсцкага вокруга С.Цier прывёз з Варшавы 16 настаўнікаў. Такім чынам на пачатак студзеня ў Ваўкавыскім павеце працавала 38 дзяржаўных школ з 50 настаўнікамі і 12 школ Польскага школьнага таварыства з 12 настаўнікамі. Прычым, у некаторых з вясковых школах ужо было па 2-3 настаўніка. На 17 траўня 1920 г. агульная лічба польскіх школ па павету дасягнула 78 школак з 98 настнікамі. Разам з яўрэйскай школай яны ахоплівалі каля 2500 дзяцей.( У іншым месцы павятовы інспектар піша аб тым, што на май 1920 г. працавала 68 школак, усе польскія, з 139 настаўнікамі, з якіх 21 былі мужчынамі, і з 2722 вучнямі: 1803 хлопчыкамі і 919 дзяўчынкамі ).[20] У сувязі з масавым дэзертырствам настаўнікаў са школ вясной 1920 г. загадам Генеральнага камісара польскім установам забаранялася прымаць на працу настаўнікаў без згоды павятовага школьнага інспектара. Адначасова, загадам намесніка Генеральнага камісара ад 16 сакавіка 1920 г. настаўнікам школ выплочвалася надбаўка ў памеры да 65% зарабка. На пачатак 1920 г. заробак настаўніка ў Ваўкавыскім павеце складаў каля 750 марак, з якіх 150 выплочвала гміна і яшчэ 600 марак асыгноўваў урад.[21]

Згодна часоваму загаду наместніка Генеральнага камісара Е.Іваніцкевіча ад 11 кастрычніка 1919 г. на тэрыторыі Грамадзянскага кіравання распаўсюджваўся прынцып адукацыі на мове мясцовага насельніцтва. Для гэтага дазвалялася адчыняць школы прыватным асобам, а таксама ворганам самакіравання ці зарэгістраванным арганізацыям. Пры гэтым, польская мова павінна была выкладацца ў непольскіх школах не меньш 2-х гадзін на тыдзень. Непольскія школы мелі права на дзяржаўныя субсідыі, калі мова выкладання ў іх з'ўлялася роднай для ня менш чым 2/3 вучняў. У гмінных школах навучанне павінна было адбывацца бясплатна. Пры гэтым, утрыманне настаўнікаў і самой школы знаходзілася ў абавязках самой гміны. Настаўнікам пачатковай школы мог стаць кандыдат, які скончыў настаўніцкую семінарыю, ці меў даведку сярэдняй школы з вопытам як мінімум трохмесячнай практыкі ў якасці памочніка кваліфікаванага настаўніка. У іншым выпадку, кандыдат вымушын быў прайсці 6-цімесячную практыку. З мэтай "як хутчэй урэгуляваць хаос, які існаваў у школах у сувязі з розніцай навучальных праграмаў", на тэрыторыі Генеральнага камісарыята ў студзені 1920 г. уводзілась навучальная праграма польскіх пачатковых школаў.[22]

"За адзін год, - з годнасцью адзначаў Ваўкавыскі польскі школьны інспектар, - польскія ўлады адчынілі школ больш, чым рускія за 100 гадоў панавання". Аднак, нават ён быў вымушаны прызнаць, што калі мясцовыя палякі "прыймалі школы з энтузіазмам", то яўрэі "байкатавалі іх, чакаючы прыходу бальшавікоў", а беларускія сяляні адносіліся да польскіх школ наогул "падазрона".[23]

Між тым, пытанне аб беларускай адукацыі ў Ваўкавыскім павеце стаяла даволі востра. Частка мясцовага насельніцтва адносілась да выкладання па беларуску абыякава, іншая частка - нават адмоўна, таму што не бычыла ў вывучэнні беларускай мовы практычнай карысці. У часы нямецкай акупацыі на тэрыторыі Беларусі было адчынена больш за 350 беларускіх школ. З іх 150 на Віленшчыне і каля 135 на Гродзеншчыне. Некаторые з іх былі беларускімі толькі з назвы. Большасць школ пачала распадацца яшчэ да эвакуацыі нямецкіх войск. Польскія ўлады з самага пачатку ставіліся да беларускіх школ варожа, як да твораў нямецкай

палітыкі. Вельмі хутка амаль усе школы былі ліквідаваны, а шмат хто з беларускіх настаўнікаў трапіў у турму па абвінавачанню ў антыпольскай дзейнасці. Іншага погляду прытрымліваецца З.Урбанскі, які сцвярджае, што беларускія школкі зніклі без умяшання польскай улады, з прычыны, што "з адыходам нямецкай арміі, штучна створанная ў большасці выпадкаў школьная сыстэма, згубіўшы моцную падтрымку, распалася сама сабою". У адрозненні ад Віленскага і Брэсцкага вокругаў іншай палітыкі прытрымліваліся польскія ўлады ў галіне беларускай адукацыі ў Мінскім вокруге.-Гэта было вынікам мэтанакіраванай барацьбы супраць расейскіх уплываў ва ўсходніх беларускіх паветах. Пры гэтым, фармальна прызнаючы права выкладання на роднай мове і, нават, заяўляючы аб сваёй падтрымцы, на практыцы польскія ўлады перашкаджалі развіццю беларускай адукацыі на тэрыторыі Беласточыны, Палесся, Віленшчыны і Гродзеншчыны, у тым ліку і на Ваўкавышчыне.[24] У сувязі са слабасцю мясцовага самакіравання ўсе пачатковыя школы ў Віленскай і Брэсцкай акругах былі дзяржаўнымі. Пачатковая адукацыя ў Мінскім вокрузе фінансавалася ужо за кошт ворганаў самакіравання, што рабіла амаль немагчымым развіццё сеткі польскамоўных школ.У Берасцейскай акрузе, да якой адносіўся Ваўкаквыскі павет, беларускія школкі пачалі адчыняцца толькі ў 1920 г..[25] Як вынік - да 1 мая 1920 г. у Брэсцкай акрузе існавала ўсяго 14 беларускіх школак. З іх - ні воднай у Ваўкавыскім павеце.[26]

Не гледзячы на аб'ектыўныя цяжкасці ў распаўсюджанні беларускай адукацыі, галоўнай перашкодай заставалася менавіта супрацьдзеянне з боку польскіх уладаў. Гэта добра відаць на прыкладзе спробы адчыніць беларускую школку ў в.Рось, якая існавала тут яшчэ ў час нямецкай акупацыі. У канцы 1919 г. мясцовыя жыхары адаслалі ў Варшаву ліст з просьбай адчыніць беларускую школу зноў. Аднак, 22 лютага 1920 г. на вясковым сходзе апякун былой расейскай школы Адлянецкі-Пачобут прымусіў сялян адмовіцца ад вывучання роднай мовы.[27] У ліпені 1919 г. кс. К.Стаповіч ( Казімір Сваяк ) разам са сваім сябрам кс. Я.Германовічам ( Вінцук Адважны ) зрабілі спробу адчыніць беларускія школкі: адну для дзяўчынак і адну для хлапчукоў, у в.Лапейніцы пад Ваўкавыскам.[28] На гэты раз супраць беларускіх ксяндзоў актыўна выступіла мясцовая арганізацыя Таварыства стражы крэсовай. Пад пагрозай інтэрвенцыі павятовых уладаў, на якіх Таварыства мела вельмі моцны ўплыў, К.Стаповіч і Я.Германовіч былі вымушыны прыпыніць беларускую агітацыю...

Наогул, трэба адзначыць выключную ролю Таварыства стражы крэсовай, калі гаворка ідзе пра палітыку паланізацыі мясцовага насельніцтва. Сама арганізацыя была створанна з мэтай абароны польскіх інтарэсаў на "ўсходніх крэсах" яшчэ ў лютым 1918 г. у сувязі з перадачай нямецкімі ўладамі тэрыторыі Холмшчыны Украіне. Таварыства вызначала сваёй мэтай адраджанне польскага грамадскага, палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця на тэрыторыях "крэсаў" і абапіралася, галоўным чынам, на працу інструктароў, у задачу якіх уваходзіла ініцыяцыя стварэння на месцах польскіх грамадска-гаспадарчых арганізацый: сельска/гаспадарчых колаў, кааператываў, маладзёвых аб'яднанняў, культурна-асветніцкіх гурткоў. На пачатку свайго існавання Таварыства стражы крэсовай з'яўлялася арганізацыяй элітарнай і складалася амаль выключна з інтэлігенцыі. Адным з ініцыятараў яе стварэння выступіў Саюз польскай моладзі "Зэт" (Zwiazek Mlodziezy Polskiej "Zet" ), які быў моладзевай арганізацыяй польскай нацыянал-дэмакратычнай партыі ( эндэкаў ). На тэрыторыі Беларусі Таварыства распачала сваю дзейнасць з 1 сакавіка 1919 г.. На 3 лістапада 1919 г. Страж крэсова налічвала 114 чалавек. У 1919 г. на тэрыторыі Віленскага і Брэсцкага вокруга Грамадзянскага ўпраўлення усходніх зямель Таварыствам было адчынена 7 колаў, 10 павятовых народных радаў, 31 народны дом, 168 маладзёвых колаў з больш чым 7000 тыс. сябрамі, 77 с/г колаў, 85 кааператываў, 53 гандлёва-с/г таварыства, 74 бібліятэкі, 18 чытальняў, 4 народных універсітэта, 9 харцэрскіх дружын і 5 кніжных лавак. За гэты час Страж правяла 127 мітынгаў і з'ездаў, 189 лекцыяў. У кастрычніку 1919 г. з ініцыятывы Таварыства быў створаны Часовы камітэт адбудовы ўсходніх зямель. Таварыства стражы крэсовай садзейнічала развіццю ворганаў мясцовага самакіравання праз актыўны ўдзел у стварэнні гмінных радаў, павятовых сеймікаў, арганізацыю курсаў самакіравання. Адчыняла павятовыя бюро па складанню заяваў, просьб і атрыманню прававых парадаў, грамадскія рады і польска-амерыканскія камітэты дапамогі дзецям. Акрамя таго, Страж актывізавала працу Польскага школьнага таварыства, ініцыяваўшы стварэнне ў маі 1919 г. у Вільні Акружнога польскага школьнага таварыства. Яна прыняла актыўны ўдзел у правядзенні перапісу насельніцтва і падрыхтоўцы плебесцыта на акупаванай тэрыторыі Беларусі, праводзячы агітацыю на карысць Польшчы. Фармальна выступаючы ў падтрымку ідэі аб'яднання зямель б.ВкЛ з Польшчай на прынцапах федэрацыі, фактычна Таварыства стражы крэсовай з'яўлялася прыхільнікам інкарпарацыі беларускіх, украінскіх і літоўскіх зямель у склад польскай дзяржавы. Таварыства сустракала вострую крытыку з боку беларускіх дзеячоў, бачыўшых у яе дзейнасці па паланізацыі беларускіх зямель палітыку польскага ўрада.[29]

Кіраўніком Таварыства стражы крэсовай у Ваўкавыскім павеце быў сын старасты Пултускага павета падхаронжы Станіслаў Падвінскі. Згодна дакладу вярбовачнага рэферэнта: "вельмі інтэлегентны, адукаваны, здольны, прыкладны працаўнік". Ягонай адзінай марай было заняць месца старасты, а адзіным недахопам - ягоная ганарлівасць, перакананасць ў тым, што ён "працуе больш і лепш за ўсіх астатніх". "Аднак, - дадаваў ў сваім данясенні рэферэнт, - гэтак сцвярджаюць пра сябе амаль усе працаўнікі Стражы і гэта часам вядзе іх да асляплення". У падначаленні С.Падвінскаму знаходзілася тры раенныя інструктары. Два з іх, Болдак і Маскаленка, былі так званамі "ходзікамі", гэта значыць, пешымі агітатарамі і распаўсюджвальнікамі прэсы. Яны зараблялі продажам прапагандыскай літаратуры, з якой падарожнічалі па вёсках. Часам, аднак, нават паміж Таварыствам і польскай уладай даходзіла да непаразуменняў.Так, 28 студзеня 1920 г. інструктар Маскаленка быў арыштаваны гарадской паліцыяй па загаду Ваўкавыскага старасты па абвінавачанню ў... дзяржаўнай здрадзе. Ён падбураў сялян, каб тыя карысталіся прыватнаўласніцкімі лясамі, распускаў плёткі пра падзел зямлі, казаў, што мясцовая ўлада складаецца ўся "выключна з паноў". Акрамя гэтага Маскаленка "агітаваў, каб яго выбралі паслом у Сейм, і вёў падрыхтоўку глебы для будучых выбараў".[30] Як бачым, адной з галоўных прычын арышта інструктара Таварыства стражы крэсовай сталі ягоныя занадта вялікія амбіцыі. Што датычыць стаўлення да беларускай адукацыі і наогул ўсяго беларускага, дык тут Таварыства і ўлада дзейнічалі разам, вынікам чаго, паміж іншым, і стала адсутнасць беларускіх школак у павеце...

Падчас савецкага наступлення летам 1920 г. Ваўкавыскі школьны інспекатарат разам са стараствам быў эвакуаваны ў Козні́м, Познаньскага ваяводства.[31] Генеральнае ўпраўленне ўсходніх зямель праіснавала да 9 верасня 1920 г.. Замест яго было ўтворана Ўпраўленне прыфрантавых і этапных тэрыторый, ліквідаванае ў сваю чаргу 27 лістапада 1920 г..

Увечары 23 верасня 1920 г. група генерала В.Юнга ўвайшла ў Ваўкавыск. Аднак, яна была так вычарпана баямі з 48 савецкай дзів. пех., што пасля крывавых вулічных баёў адступіла. 24 верасня 1920 г. польскія войскі канчаткова занялі Ваўкавыск.[32] А ўжо 4 лютага 1921 г. выйшаў закон аб нармалізацыі палітыка-прававога палажэння зямель, якія згодна ўмовам польска-савецкага прэлімінарнага міра адыходзілі да Польшчы, у выніку чаго Ваўкавыскі павет апынуўся ў складзе Беластоцкага ваяводзтва.

СПІС ЛІТАРАТУРЫ:

[1] Spis ludnosci na terenach administrowanych przez zarzad cywilny ziem wschodnich ( grudzien 1919 ) z mapa. Wydal Eugeniusz Romer // Prace geograficzne wydawane przez E.Romera - zeszyt VII; I.Weinfeld

Rocznik Polski 1922. Warszawa - Lwow MXMXXII-s. 31,46;
[2] М.Б.Сяменчык Прамысловае развіццё Ваўкавыска ў 1921 - 1939 г.г. // Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей. Ваўкавыск, 1997, - с.158;
[3] Malzenstwa, urodzenia i zgony w wojewodstwach centralnych i wschodnich. Dane ogolne za lata 1919-1926 // Kwartalnik statystyczny. T.VI, zeszyt 1 - Warszawa 1929 - s.426;
[4] Луцкевіч А. Дзённік // Полымя. 1991, №5, с.170;
[5] Луцкевіч А. Дзённік // Полымя. 1991, №4, с.218;
Т.Данілюк Мае ўспаміны аб службе ў беларускіх вайсковых фармацыях і ўдзеле ў беларускім збройным змаганьні 1917 - 1921 гг. // Спадчына, 1995, № 5, с.22, 25;
[6] Lukomski G., Polak B. W obronie Wilna, Grodna i Minska 1918-1920. Koszalin-Warszawa, 1994-s.128,141;
[7] Gierowska - Kallaur J. Problemy polskich struktur panstwowych na terenie bylego Wielkiego Ksienstwa Litewskiego // Rok 1918. Odrodzona Polska w nowej Europie. Wydawnictwo Neriton, Instytut Historii PAN, Warszawa 1999, s.221-224;
[8] Gierowska - Kallaur J. Straz Kresowa a Zarzad Cywilny Ziem Wschodnich/ Wspoldzialanie czy rywalizacja? Instytut Historii PAN, wydawnictwo NERITON, Warszawa 1999, s..115;
[9] Dziennik urzendowy Zarzadu cywilnego ziem wschodnich, 1919, №35, с.318;
[10] Dziennik urzendowy Zarzadu cywilnego ziem wschodnich, 1919, №19, с.186; 1920, №1011, с.325; № 1315, с.373; №1542, №1544;
[11] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.50, воп.5, спр.67, ст.119;
[12] American Food in the World war and reconstruction period. Operations of the organizaitions under the direction of Herbert Hoover 1914 to 1924 by Frank M. Surface and Raymond L. Bland - Stanford university Press, California, - 1931, s. 776-780,792,799;
[13] ZCZW, akc. 1680, с. 1,1об., 2об..
[14] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, ст. 44-45, 320;
[15] Dz. Urz. ZCZW NDWP R. 25 ноября 1919 года. III. 396;
[16] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, с.233, 253;
[17] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, с.14,20,45,253 об.;
Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 11, с.302;
[18] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, с.230;
Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр.23, с.251;
[19] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.2001, воп.4, спр.69, ст.100;
Dz. Urz. Gen. Kom. Cyw. NDWP ZWZW R.I № 41 от 11 декабря 1919 г.IV. 461;
Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, с.11,42,98,200,237,388об.;
[20] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, с.24-27,46,239,321об.;
[21] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, с.20-23;
Dz. Urz. ZCZW. R. II. № 22 ( 66 ) от 16 марта 1920 года. II. 545; №17,с.165;
[22] Dzennik Urzedowy Generalnego Komisarza Cywilnego Naczelnego Dowodstwa W.P. Zarzad Wojskowy Ziem Wschodnich. Rok I № 31z 18 ноября 1919 г. II. 34; Dz. Urz. ZCZW. R.II. № 3 ( 47 ) от 17 января 1920 года. IV. 32;
[23] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, с.322;
[24] Pacuk Polityka panstwa polskiego wobec ludnosci bialoruskiej. с.203-208
[25] Pacuk...с.211,212;
[26] Studnicki W. Zarys statystyczno-ekonomiczny ziem polnocno-wschodnich. Wilna. 1922, s.159,160;
[27] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.310, воп. 1, спр. 22, с.274,275;
[28] С.Міхальчык Мыслі сэрца і волю народу свайму... // Биржа информации 2000, №7;
[29] Gierowska - Kallaur J. Straz Kresowa a Zarzad Cywilny Ziem Wschodnich.., s..6-9;
Tomczonek Z. Ruch ludowy na kresach polnocno-wschodnich drugiej Rzeczypospolitej. Bialystok 1996, s.43-62;
[30] Gierowska - Kallaur J. Straz Kresowa... s.57-58;
[31] Брэсцкі абласны дзяржархіў. Ф.2031, воп.3, спр.9, стр.59;
[32] Lukomski G., Polak B. W obronie Wilna, Grodna i Minska..s.285,286;



Купецкая гімназія






Гімнмазія ім. Стафана Баторыя

# Вандроўка ў мінуўшчыну

Два разы навучэнцам педвучылішча і сябрам



моладзевай ініцыятывы «Ліцьвіны», у межах праграмы арганізацыі працы рэгіянальгага краязнаўчага таварыства, пашчасціла наведаць архітэктурныя помнікі Беларусі. Экскурсіі







сталі магчымымі дзякуючы фінансавай падтрымцы фонда «Інстытут на карысць дэмакратыі ва ўсходняй Эўропе» і дапамозе Ваўкавыскай рэгіянальнай арганізацыі ТБМ імя ф. Скарыны і грамадскага аб'яднання «Аслона». Навучэнцы наведалі касцёл у в. Рэпля, музей Алеся Белакоза ў Гудзевічах. 10 яго залаў змяшчаюць прадметы рамесніцтва, беларускага фальклору, выяўленчага мастацтва. Алесь Белакоз прапанаваў спосабы лячэння многіх хвароб пры дапамозе крамянёваи вады і медных пласцін і падараваў кожнаму гэтыя лекарскія камяні.

Цікава было наведаць беларускую хатку, якая дапамагае ўявіць жыццё нашых продкаў.

Наступным прыпынкам былі Жыровічы. Цікавым стала знаёмства і з сусветнавядомым помнікам архітэктурнага дойлідства XVI ст. - Сынкавіцкай царквой-крэпасцю. Завіталі навучэнцы ў Зэльву. На магіле Ларысы Геніюш яны чыталі вершы беларускай паэткі. А раней вандроўнікі ўжо наведалі самыя знакамітыя помнікі Беларусі ў Навагрудку, Нясвіжы, Міры.

Крыўдна, што свае культурныя помнікі мы не зберагі ў належным стане, сорамна за няведанне беларускай гістарычнай спадчыны. Але, спадзяемся, убачыўшы тыя сведкі мінуўшчыны, з якімі пазнаёміліся мы, ніхто з сучаснікаў не застанецца раўнадушным да іх. Захаванне і адраджэнне беларускай культуры тады стане справай кожнага.

**Павел ВАЛОШКА.**

# В А Ў К А В Ы С К да 1939 года

**(фотаматэрыялы з архіва Ваўкавыскага краязнаўцы В.Качука)**















